К. Маркс і Ф. Энгэльс.

# Маніфэст Комуністычнай партыі.

Здань ходзіць па Эўропе—здань комунізму. Дзеля сьвятога цкаваньня гэтае здані злучыліся ўсе сілы старое Эўропы—папа й цар, Мэтэрніх і Гізо, францускія радыкалы і нямецкія паліцмэны.

Хіба ёсьць цяпер такая опозыцыйная партыя, якую не аславілі-б комуністычнаю яе супрацiўнікі, што стаяць каля ўлады? І хіба ёсьць дзе такая опозыцыйная партыя, якая-б, у сваю чаргу, не адкідала назад гэтага ганебнага, на яе думку, дакору ў комунізьме, як больш перадавым прадстаўніком опозыцыі, так і больш рэакцыйным сваім супраціўнікам?

З гэтага факту вынікаюць два вывады.

Комунізм вызнаецца ўжо за сілу ўсімі эўропэйскімі сіламі.

Час ужо комуністым адкрыта вылажыць перад усім сьветам свой спосаб мысьленьня, свае мэты, свае дамаганьні ды працівапаставіць байцы пра здань комунізму Маніфэст самое Комуністычнае партыі.

З такою мэтай сабраліся комуністыя розных нацыянальнасьцяў у Лёндан ды напісалі наступны Маніфэст, каб агаласіць яго ў мове ангельскай, францускай, нямецкай, італьянскай, флямандзкай і дацкай.

## I.

## БУРЖУА і ПРОЛЕТАРЫ.

Уся гісторыя папярэдняга грамадзянства была гісторыяй барацьбы кляс. *)

Вольны й нявольнік, патрыцы й плебэй, пан і прыгонны, цэхавы майстар і чалядзінец (падручнік), карацей—прыгнятальнікі і прыгнечаныя былі ў стане пастаяннай варажнечы паміж сабою, тачылі бязупынную, то

*) Тут трэба разумець тую гісторыю, пра якую захаваліся пісаныя ведамасьці. У 1848 г. первястковая гісторыя грамадзянства, грамадзянская організацыя, што папераджала кожную пісаную гісторыю, была бадай што саўсім невядома. З таго часу Гакстгаузэн вынайшоў грамадзянскую, супольную ўласнасьць на землю ў Расіі, а Маўрар давёў, што яна была грамадзянскаю асновай, з якой гістарычна выходзілі ўсе нямецкія пляменьні, і паволі знойдзена было, што сялянскія грамады з супольнай уласнасьцяй на землю былі первястковаю формай грамадзянства скрозь ад Індыі да Ірляндыі. Нарэсьце, нутраная гісторыя гэтага первястковага комуністычнага грамадзянства ў яго тыповых формах была высьнена Морганам, каторы адкрыў сапраўднае значэньне роду і яго стану сярод пляменьня. З часу распаду гэтых первястковых грамад пачынаецца падзел грамадзянства на асобныя, а з часам і варожыя клясы. (*Увага Энгэльса*).



патайную, то адкрытую барацьбу, якая кожны раз канчалася рэволюцыйнай перабудовай усяго грамадзянскага ладу, або супольнай гібельлю ваюючых кляс.

У папярэднія эпохі гісторыі мы знаходзім бадай што ўсюды поўны падзел грамадзянства на розныя станы, на многавобразныя ступені рознага грамадзянскага палажэньня. У старавечным Рыме мы сустрачаем патрыцыяў і рыцараў (коньнікаў), плебэяў і нявольнікаў; у сярэднія вякі —фэўдальных паноў, васалаў, цэхавых майстраў, чалядзінцаў і прыгонных, а ў кожнай з гэтых кляс былі яшчэ асобныя драбнейшыя пачленаваньні.

Сучаснае буржуазнае грамадзянства, якое вырасла на руінах фэўдалізму, ня зьнішчыла падзелу на клясы. Яно паставіла толькі на месца старых новыя клясы, новыя спосабы прыгнячэньня і новыя формы барацьбы.

Нашая эпоха—эпоха буржуазіі—адрозьніваецца, аднак, тым, што яна апросьціла клясавыя супярэчнасьці. Усё грамадзянства што-раз выразьней і выразьней распадаецца на два вялікія варожыя станы, на дзьве вялікія, заўсёды спрэчныя паміж сабою клясы: *буржуазію і пролетарыят.*

З сярэднявяковых прыгонных, або падданых выйшлі мяшчане першых гарадоў, а з гэтага гарадзкога мяшчанства разьвіліся потым першыя элемэнты буржуазіі.

Адкрыцьце Амэрыкі і морскай дарогі навокала Афрыкі стварыла новае поле чыннасьці для вырастаючай буржуазіі. Усходня-індыйскі і кітайскі рынкі, колёнізацыя Амэрыкі, таргоўля з колёніямі, павялічэньне сродкаў тарговага памену і тавараў наогул надалі нячуванага раней руху ў таргоўлі, мараплаваньні, прамысловасьці і тым значна прыскорылі разьвіцьцё рэволюцыйнага элементу ў фэўдальным грамадзянстве, якое пачало ўжо раскідацца.

Стары фэўдальны, або цэхавы спосаб прамысловай продукцыі не здавальняў ужо таго попыту на тавары, які шырока разросься разам з адкрыцьцем новых рынкаў. Цэхавая продукцыя, зьвязаная фэўдальнымі прывілеямі, уступіла месца мануфактуры. Сярэдні прамысловы стан выціснуў цэхавых майстраў. Падзел працы паміж рознымі сяброўствамі зьнік перад падзелам працы ў кожнай асобнай майстэрні.

Але рынкі бязупынна павялічаліся і бязупынна рос попыт на тавары. Хатні, або мануфактурны спосаб прамысловасьці, у сваю чаргу, перастаў здавальняць патрэбы рынку. Тады пара й машына зрабілі рэволюцыю ў прамысловасьці. Месца мануфактуры заступіла цяперашняя вялікая прамысловасьць, месца сярэдняга прамысловага стану заступілі прамысловыя міліянэры, шэфы цэлых прамысловых армій, цяперашняя буржуазія.

Вялікая прамысловасьць утварыла сусьветны рынак, падгатаваны адкрыцьцем Амэрыкі. Сусьветны рынак выклікаў вялізарнае разьвіцьцё

таргоўлі, мараплаваньня і сухадарожных зносін. Гэта ў сваю чаргу парушыла разьвіцьцё прамысловасьці, і ў меру таго, як расьлі прамысловасьць, таргоўля, плаваньне па моры, залезныя дарогі,—разьвівалася й буржуазія, павялічаліся яе капіталы, і яна адсоўвала на задні плян усе клясы, што перайшлі да яе ў спадчыну ад сярэдневяковага грамадзянства.

Такім парадкам, мы бачым, што сучасная буржуазія зьяўляецца продуктам доўгага разьвіцьця, продуктам цэлага раду пераваротаў у способах продукцыі і памену.

Кожнай новай ступені, пройдзенай буржуазіяй у яе разьвіцьці, адпавядала пэўнае ступеняваньне ў політычных зьменах. Буржуазія была то станам, прыгнечаным уладай фэўдальнага пана, то ўзброеным сяброўствам—комунаю *) з самасправаваньнем: тут яна складае незалежную гарадзкую рэспубліку, там становіць падатковы трэці стан у монархічнай дзяржаве; потым, у часе мануфактурнага промыслу, станавіла працівагу шляхецтву ў абсолютнай або абмяжованай станамі монархіі і была галоўнай падвалінай для вялікіх монархій наогул; з утварэньнем-жа вялікага промыслу і сусьветнага рынку гэтая буржуазія заваявала сабе, нарэсьце, поўнае політычнае панаваньне ў сучаснай констытуцыйнай дзяржаве. Сучасная дзяржаўная ўлада ёсьць нішто іншае, як комітэт па супольных справах усяе клясы буржуазіі.

Буржуазія грала ў гісторыі надзвычайна рэволюцыйную ролю.

Усюды, дзе толькі пачыналася яе панаваньне, яна разбурала фэўдальныя патрыархальныя, ідылічныя адносіны. Бяз жалю парвала яна тыя стракатыя фэўдальныя сувязі, што злучалі чалавека ніжэйшага стану з яго прыродным панам, і не пакінула паміж людзьмі іншае сувязі, апрача голага інтарэсу, халоднай рахубы, апрача нячулай чорствай „выплаты гатоўкай“. У ледзяной вадзе эгоістычнага падрахунку ўтапіла яна сьвятое трымаценьне пабожнага лятуценьня, рыцарскага запалу і мяшчанскай чульлівасьці. Годнасьць і павагу чалавечай асобы яна абярнула ў паменную вартасьць, а на месца безьлічы дорага набытых і забясьпечаных прывілеямі вольнасьцяў, паставіла адну няведаючую сумленьня вольнасьць—вольнасьць гандлю. Словам, на месца апавітага рэлігійнымі і політычнымі прыкрасамі вызыску, яна паставіла вызыск голы, просты, бясcорамны і жорсткі.

Буржуазія садрала шаты сьвятасьці з усіх тых людзкіх чыннасьцяў (профэсій), на якія глядзелі дагэтуль з глыбокай пашанай і з набожным страхам дзіваваньня. Доктара й праўніка, сьвяшчэньніка й поэту, чалавека навукі яна абярнула за плату ў сваіх наймітаў.

*) Так называлася ў італійскіх і францускіх гарадох меськая грамада пасьля таго, як мяшчане выкупілі або адваявалі ў сваіх фэўдальных паноў першае права на самасправаваньне.



Буржуазія садрала з сям'і яе чульліва-пяшчотную заслону ды зрабіла з сямейных адносін чыста-грашовы інтарэс.

Буржуазія давяла, што выяўленьне грубай сілы ў сярэднія вякі, якое так чаруе прыхільнікаў старасьветчыны (рэакцыянэраў), знаходзіла сабе адпаведнае дапаўненьне ў гультайстве і мядзьвежай нярухлівасьці. І толькі буржуазія паказала, чаго можа дасягнуць людзкая дзеяльнасьць. Замест эгіпецкіх пірамід, рымскіх вадацягнікаў або готыцкіх касьцёлаў, яна стварыла іншыя цуды; яна выканала зусім іншыя паходы, як старавечнае перасяленьне народаў або крыжацкія паходы.

Буржуазія ня можа існаваць, не выклікаючы бязупыннай зьмены ў прыладах вытворчасьці (продукцыі), а, значыць, і зьмены ў продукцыйных адносінах ва ўсіх наогул грамадзянскіх адносінах. І наадварот, нязьменнае захаваньне старога способу продукцыі было першай умовай існаваньня ўсіх папярэдніх прамысловых кляс. Гэтыя бязупынныя перавароты ў продукцыі, бесьперастанная трасяніна ва ўсіх грамадзянскіх адносінах, гэтая заўсёдная няпэўнасьць, вечны рух і вечнае ваганьне адрозьніваюць буржуазную эпоху ад усіх папярэдніх эпох. Усе звыклыя (традыцыйныя) грамадзянскія адносіны з адпаведнымі ім паглядамі і паняцьцямі, што спрадвеку шанаваліся,—руйнуюцца, а ўсё новае старэе й гіне раней, чымсі пасьпее замацавацца, ды стаць трывалым і прызвычаеным. Усё станавае (прызвычаенае) і нярухлівае разбураецца і зьнікае, усё сьвятое апаганьваецца, і людзі прымушаюцца канец канцом глянуць цьвярозымі вачыма на свой жыцьцёвы стан і на свае ўзаемныя адносіны.

Патрэба мець усё новыя рынкі для збыту сваіх тавараў прымушае буржуазію абягаць усю зямную галу. Ёй трэба ўсюды ўкараніцца, яна ўсюды стараецца прашыцца й асесьці, раскінуць сваю сетку ды завязаць зносіны.

Буржуазія сваім вызыскам сусьветнага рынку надала продукцыі і спажываньню ва ўсіх краёх **космополітычны** характар. На вялікі жаль для рэакцыянэраў, яна пазбавіла прамысловасьць яе нацыянальнага грунту. Даўнейшыя, нацыянальныя галіны прамысловасьці зьнішчаны і зьнішчаюцца што-дня. Яны выціскаюцца новымі галінамі прамысловасьці, завесьці якія становіцца справай жыцьця для ўсіх цывілізованых народаў,—тымі галінамі прамысловасьці, што абрабляюць ужо ня толькі мясцовыя сырыя продукты, але й тыя, што прывозяцца з самых адлеглых краёў і фабрыкаты якіх спажываюцца ня толькі ў сваім краю, але вывозяцца і ва ўсе часьці сьвету. На месцы даўнейшых патрэб, што здавальняліся краёвымі вырабамі, паўсталі новыя патрэбы, для здавальненьня якіх патрэбны вырабы самых адлеглых краёў і самых рознастайных кліматаў. Даўнейшая нацыянальная замкнёнасьць, калі кожная краіна самаздавальняла ўсе свае патрэбы, уступае месца сусьветнай таргоўлі і ўзаемнай усябочнай залежнасьці ўсіх народаў. І гэта, як у матар'яльнай продукцыі, так

і ў духоўнай, бо з творчасьцю чалавечага розуму адбываецца тое самае, што й з продуктамі матар'яльнай працы. Творы чалавечага розуму паасобных народаў становяцца супольным дабром усяго сьвету. Нацыянальная аднабокасьць і абмяжованасьць становяцца ўсё больш і больш немажлівымі, а чысьленныя нацыянальныя і мясцовыя літаратуры зьліваюцца ў адну агульную сусьветную літаратуру.

Дзякуючы шпаркаму палепшаньню прылад продукцыі і надзвычайна палепшаным дарогам для зносін, буржуазія выводзіць на шлях цывілізацыі ўсе, нават самыя барбарскія народы. Танныя цэны на тавары зьяўляюцца ў руках буржуазіі тэю цяжкай гарматай, пры дапамозе якой яна прабівае самыя кітайскія муры і прымушае здавацца самую ўпартую ненавісьць барбараў да чужынцаў. Яна прымушае ўсе народы, калі яны ня хочуць згінуць, прымаць буржуазны спосаб продукцыі; яна прымушае іх заводзіць у сябе так званую цывілізацыю, г. зн., зрабіцца буржуа. Словам, яна творыць новы сьвет на свой вобраз і падабенства.

Буржуазія аддала вёску пад уладу гораду. Яна ўтварыла вялізарныя гарады і надзвычайна павялічыла гарадзкое насяленьне ў параўнаньні з вясковым і, такім парадкам, вызваліла значную часьць насяленьня з-пад дурману (ідыатызму) вясковага жыцьця. Падобна да таго, як яна паставіла сяло ў залежнасьць ад гораду, яна падпарадкавала дзікія і напаўдзікія краі цывілізованым, земляробскія народы—прамысловым, Усход—Захаду.

Буржуазія што далей, то больш зьнішчае расьцярушанасьць сродкаў продукцыі, маемасьці і насяленьня. Яна згушчае насяленьне, цэнтралізуе сродкі продукцыі і зьбірае ўласнасьць у рукі нялічных асоб. Канечным вынікам гэтага была палітычная цэнтралізацыя. Незалежныя, ледзьве зьвязаныя паміж сабою саюзнымі ўмовамі провінцыі з рознымі інтарэсамі, з асобнымі законамі, урадамі і мытам, зьліваюцца ў адзін народ, з адным урадам, з адным заканадаўствам, з адным мытам, з адзіным нацыянальным клясавым інтарэсам.

За нейкія сто год свайго клясавага панаваньня буржуазія стварыла далёка большыя і магутнейшыя вытворчыя сілы, як усе папярэднія пакаленьні, разам узятыя. Яна апанавала сіламі прыроды, завяла машынны спосаб продукцыі, дапасавала хэмію для патрэб прамысловасьці і земляробства, пабудавала параходы, чыгункі, электрычныя тэлеграфы, абярнула ў ворнае поле цэлыя часьціны сьвету, як з-пад зямлі выклікала цэлыя народы... Ці-ж мог хто ў папярэднія вякі хоць падумаць аб тым, якія вытворчыя сілы драмалі ў нетрах грамадзянскай працы?!

Гэтак мы бачым, што сродкі продукцыі і памену, на глебе якіх вырасла буржуазія, былі створаны яшчэ пры фэўдальным грамадзянстве. Але, на пэўнай ступені разьвіцьця гэтых сродкаў продукцыі і памену, тыя абставіны, пры якіх адбываліся продукцыя і памен у фэўдальным грамадзянстве, фэўдальны спосаб земляробства і мануфактуры, словам,—фэўдальныя маемныя адносіны перастаюць адпавядаць новым, больш разьвітым сілам продукцыі. Яны пачынаюць замінаць продукцыі, замест таго, каб дапамагаць яе разьвіцьцю, ды становяцца яе путамі. Гэтыя путы конча трэ' было парваць, і яны былі парваны.



Іх месца заступіла вольная конкурэнцыя з адпаведным ёй грамадзянскім і палітычным ладам, з эконаміч. і палітыч. панаваньнем буржуазіі.

На нашых вачох адбываецца падобны рух. Буржуазныя ўмовы продукцыі і памену, буржуазныя формы маемных адносін, сучаснае буржуазнае грамадзянства, што нібы чарадзействам стварыла такія магутныя сродкі продукцыі і памену, падобна цяпер да таго чарнакніжніка, каторы ня можа больш справіцца з тымі падземнымі сіламі, якія ён выклікаў сваімі чарамі. Ужо некалькі дзесяткаў год гісторыя прамысловасьці і гандлю прадстаўляе сабою нішто іншае, як гісторыю паўстаньня сучасных продукцыйных сіл проціў сучаснай організацыі продукцыі, проці форм уладаньня маемасьцяй,—проціў гэтых жыцьцёвых абставін, што становяць умовы для існаваньня буржуазіі і яе панаваньня. Даволі паказаць на тыя гандлёвыя крызісы, што пэрыодычна паўтараюцца і сваім паваротам што-раз больш пагражаюць існаваньню ўсяго буржуазнага грамадзянства. У часе торговых крызісаў рэгулярна зьнішчаецца значная часьць ня толькі выробленых продуктаў, але й вытвораных ужо продукцыйных сіл. У часе гэтых крызісаў выбухае грамадзянская пошасьць, якая ў папярэднія эпохі здавалася-б нейкай недарэчнасьцяй: гэта пошасьць перавытворчасьці. Грамадзянства раптам адкідаецца на нейкі час у стан дзікасьці барбарызму; здаецца, што голад ці страшная вайна зьнішчылі ў яго ўсё патрэбнае для жыцьця. Прамысловасьць і таргоўля нібы зьнішчаюцца,—чаму? Бо грамадзянства мае занадта дабра, патрэбнага для жыцьця, занадта мае прамысловасьці, занадта многа таргоўлі, бо яна занадта цывілізована! Тыя продукцыйныя сілы, якімі ўладае грамадзянства, перастаюць ужо дапамагаць разьвіцьцю буржуазнай цывілізацыі, ня спрыяюць буржуазным формам уладаньня маемасьцяй. Наадварот, яны сталі занадта вялікія для гэтых форм і валтузяцца імі, а калі продукцыйныя сілы перамагаюць гэтыя формы маемных адносін, то прыводзяць у бязладзьдзе ўсё буржуазнае грамадзянства і пагражаюць існаваньню буржуазнай уласнасьці. Буржуазныя адносіны становяцца занадта вузкімі, каб зьмесьціць створанае імі багацьце.

Як перамагае буржуазія крызіс? Чым бароніцца яна ад яго? З аднаго боку, яна наўмысьля зьнішчае цэлыя масы продукцыйных сіл, а з другога боку, здабывае новыя рынкі і сьціслей вызыскуе старыя. Дык, чым-жа? Тым, што падгатаўляе шырэйшыя і больш сільныя крызісы і зьмяншае магчымасьці для іх ухіленьня.

Зброя, якою буржуазія разбурыла фэўдалізм, павярнулася цяпер проціў самой буржуазіі.

Але буржуазія выкавала ня толькі тую зброю, якая прынясе ёй сьмерць; яна парадзіла таксама і тых людзей, каторыя возьмуць гэтую зброю ў свае рукі—сучасных рабочых, *пролетарыят.*

У меру таго, як разьвіваецца буржуазія, або капітал, разьвіваецца также і пролетарыят, кляса сучасных рабочых, каторыя могуць жыць толькі датуль, покі маюць работу, а работу маюць датуль, покі праца іх павялічае капітал. Гэтыя рабочыя, прымушаныя прадаваць сябе кожны ў асобку, становяць сабою тавар, як і кожны іншы прадмет гандлю, а з гэтай прычыны яны падлягаюць таксама ўсім прыгодам конкурэнцыі, усім хістаньням рынку.

Праца пролетараў, дзякуючы пашырэньню машын і падзелу працы, зусім страціла характар самадзеяльнасьці, а разам з тым, усякую павабнасьць для рабочага. Рабочы становіцца простым дадаткам да машыны, ад каторага вымагаюцца толькі самыя простыя, самыя аднастайныя лёгкія для навучаньня рухі рук. З гэтай прычыны, выдаткі прадпрыемцы на работніка звычайна агранічаюцца тым, што патрэбна рабочаму для яго пражывеньня і прадаўжэньня свайго роду. Але цана тавару, а значыць, і працы, роўна выдаткам на яго продукцыю, або выраб. Дзеля гэтага, у тэй меры, як павялічаецца няпрыемнасьць працы, зьмяншаецца заработная плата. Нават больш таго, у меру таго, як разьвіваецца машынны спосаб продукцыі і падзел працы, павялічаецца і маса працы. Гэта дасягаецца або праз павялічэньне ліку рабочых гадзін, або праз павышэньне напружанасьці працы рабочага на працязе пэўнага часу ці пры дапамозе шпарчэйшага руху машын і г. д.

Сучасная прамысловасьць абярнула маленькую майстэрню даўнейшага патрыархальнага рамесьніка ў вялікую фабрыку прамысловага капіталістага. Скупчаныя на фабрыцы масы рабочых організуюцца на вайсковы лад. Як салдаты прамысловай арміі, яны аддаюцца пад догляд цэлай іерархіі фабрычных соцкіх і дзесяцкіх. Яны становяцца нявольнікамі ня толькі буржуазнае клясы, буржуазнай дзяржавы, але што-дня прыневальняюцца яшчэ машынай, даглядчыкамі і, перад усім, разумеецца, самым фабрыкантам-капіталістым. І чым вiдавочней выстаўляе гэты дэспотызм пажыву, як першую сваю мэту, тым больш робіцца ён прагавітым, ненавісным і прыкрым, і тым больш выклікае ён абурэньне.

Чым менш здольнасьці, спрыту й сілы патрабуе ручная праца, г. зн.,—чым больш разьвіваецца сучасная прамысловасьць, тым больш праца мужчын падмяняецца працаю жанчын і дзяцей. Розьніца полу й веку ў адносінах да рабочае клясы ня мае ўжо ніякага грамадзянскага значэньня. Прадпрыемец разглядае работніка, як звычайнае рабочае начыньне, патрабуючае пэўных выдаткаў у залежнасьці ад полу й веку.

Як толькі вызыск рабочага на фабрыцы канчаецца настолькі, што рабочы дастане сваю заработную плату грашыма, то яго абсядаюць іншыя часьці буржуазіі: дамаўласьнікі, крамары, квотнікі і г. д.



Папярэднія ніжэйшыя часьці сярэдняга стану—дробныя прамыслоўцы, гандляры і рант'е, рамесьнікі і сяляне,—усе гэтыя часьці дробнай буржуазіі занепадаюць і сьпіхаюцца ў рады пролетарыяту, часткаю дзеля таго, што іх невялікага капіталу не выстарчае для вялікага промыслу і яны ня могуць вытрымаць конкурэнцыі з вялікім капіталам, а часткаю дзеля таго, што іх здольнасьць і спрыт трацяць сваё значэньне пры новых спосабах продукцыі. Такім парадкам, пролетарыят набіраецца з усіх кляс насяленьня.

Пролетарыят праходзіць розныя ступені разьвіцьця. Яго барацьба проціў буржуазіі пачынаецца з моманту яго нараджэньня.

Спачатку барацьба вядзецца кожным рабочым асобна, потым барацьбу вядуць рабочыя аднае фабрыкі, далей—рабочыя аднае галіны прамысловасьці пэўнай мясцовасьці проціў асобнага буржуя, каторы іх беспасрэдна вызыскуе. Яны паўстаюць спачатку ня толькі проціў буржуазных адносін продукцыі, але нападаюць і на самыя прылады продукцыі; яны ломяць машыны, нішчаць чужыя тавары, з якімі прыходзіцца конкураваць; яны хочуць вярнуцца ў стан сярэднявяковага работніка.

На гэтай ступені разьвіцьця рабочыя становяць сабою раскіданую па ўсім краі і разлучаную конкурэнцыяй масу. Калі масы рабочых трымаюцца супольна, то гэта не зьяўляецца яшчэ вынікам іх сьвядомага аб'яднаньня, а выклікаецца аб'яднаньнем самой буржуазіі, якая дзеля дапяцьця сваіх політычных мэт прымушана і покі што можа прыводзіць у рух увесь пролетарыят. На гэтай ступені пролетарыят вядзе барацьбу, такім парадкам, не з сваімі ворагамі, а з ворагамі сваіх ворагаў—з рэшткамі абсолютнай монархіі, з панамі-землеўласьнікамі, з непрамысловай буржуазіяй, дробнай буржуазіяй. Увесь гістарычны рух скупчаецца, такім парадкам, у руках буржуазіі; кожная перамога, дасягнутая такім спосабам, зьяўляецца перамогай буржуазіі.

Але з разьвіцьцём прамысловасьці павялічаецца ня толькі лічэбны склад пролетарыяту; разам з гэтым ён скупчаецца ў вялікія масы, расьце яго сіла, і гэты рост свае сілы ён пачынае адчуваць з сьвядомасьцяй. Інтарэсы, умовы жыцьця рабочых усё больш выроўніваюцца, у той час, як машыны што раз больш і больш сьціраюць розьніцу паміж усімі галінамі працы і бадай што скрозь заводзяць аднакую нізкую рабочую плату. Рост конкурэнцыі паміж прадпрыемствамі і выплываючыя адгэтуль крызісы ў таргоўлі выклікаюць пастаяннае ваганьне ў заработнай плаце; бесьперастаннае разьвіцьцё дасканаласьці ў машынах робіць жыцьцёвае палажэньне работніка штораз больш няпэўным, сутычкі паміж паасобнымі рабочымі з паасобнымі прадпрыемцамі штораз больш набіраюць характару сутычак паміж дзьвюма клясамі грамадзянства. Дзеля супольнай

барацьбы з прадпрыемцамі рабочыя пачынаюць злучацца ў саюзы; злучанымі сіламі абараняюць яны сваю заработную плату. Яны закладаюць нават сталыя, больш моцныя організацыі, каб забясьпечыць сябе сіламі на выпадак дзейнай барацьбы ў будучыне. Часамі барацьба гэта пераходзіць у паўстаньне.

Бывае, што рабочыя перамагаюць, але не надоўга. Істотным вынікам іх барацьбы бывае не беспасрэдная карысьць перамогі, але штораз большае пашырэньне аб'яднаньня рабочых. Гэтаму аб'яднаньню дапамагаюць штораз лепшыя дарожныя зносіны, якія вытварае разьвіцьцё вялікай прамысловасьці, устанаўляючы сувязь паміж рабочымі розных мясцовасьцяй. І даволі гэтай простай сувязі, каб чысьленыя і скрозь аднакія выяўленьні гэтай барацьбы ў розных мясцовасьцях цэнтралізаваць у вадну нацыянальную, клясавую барацьбу. Але кожная клясавая барацьба ёсьць барацьба політычная. І тое аб'яднаньне, для якога сярэднявяковым людзям з іх вясковымі сьцежкамі патрэбны былі сталецьці, дасягаецца сучаснымі рабочымі пры існаваньні залезных дарог упрадоўж некалькіх год.

Гэтая організацыя рабочых у васобную клясу, а разам з тым і ў політычную партыю, штомінутна разьбіваецца конкурэнцыяй паміж самымі рабочымі, але яна аднаўляецца зноў і кожны раз мацнейшаю, больш дужэйшаю і магутнай. Карыстаючы ўзаемнымі нязгодамі паміж розных груп буржуазіі, яна прымушае прызнаць у законадаўчай форме некаторыя паасобныя інтарэсы рабочых. Так, напрыклад, было з дзесяцёхгадзінным білем (законам) у Англіі, агранічаўшым працу дзесяцьцьма гадзінамі.

Нязгоды сярод старога грамадзянства заўсёды тым ці іншым спосабам дапамагаюць разьвіцьцю пролетарыяту. Буржуазія бывае ў стане бязупыннай барацьбы спачатку процiў арыстократыі, потым—супраць тых груп свае клясы, інтарэсы якіх супярэчаць разьвіцьцю вялікай прамысловасьці, і заўсёды—процiў буржуазіі чужаземных краёў. У кожным выпадку такой барацьбы буржуазія прымушана зварачацца да пролетарыяту, заклікаць яго на помач і, такім спосабам, прыцягаць яго да політычнага руху. Значыць, буржуазія сама перадае пролетарыяту элемэнты свае ўласнае політычнае асьветы, або, іначай кажучы, яна дае ў рукі пролетарыяту зброю процiў сябе самой.

Апроч таго, як было вышэй зазначана, дзякуючы разьвіцьцю прамысловасьці, цэлыя часьці пануючае клясы занепадаюць ды сьпіхаюцца ў рады пролетарыяту, або, у лепшым выпадку, жывуць пад пастаяннай пагрозай страціць свае звыклыя ўмове жыцьця. І яны таксама даюць пролетарыяту шмат асьветных элемэнтаў, якія дапамагаюць політычнаму выхаваньню рабочых.

Нарэсьце, і тады, калі клясавая барацьба падыходзіць да свайго вырашэньня, процэс распаданьня сярод усяго старога грамадзянства набірае такога гвалтоўнага, вострага й выразнага характару, што некаторыя элемэнты пануючае клясы выракаюцца свае клясы ды прылучаюцца да рэволюцыйнае клясы,—да тае клясы, якая трымае будучыну ў сваіх руках. І як колісь часьць шляхецтва пераходзіла на бок мяшчанства, буржуазіі, так і цяпер часьць буржуазіі пераходзіць на бок пролетарыяту, асабліва ідэёва настроенай буржуазнай інтэлігэнцыі, каторая здолела тэорэтычна зразумець поступ усяго гістарычнага руху.

З паміж усіх сучасных клясавых ворагаў буржуазіі толькі пролетарыят зьяўляецца сапраўды рэволюцыйнай клясай. Усе іншыя клясы занепадаюць і гінуць пад уплывам вялікай прамысловасьці, а пролетарыят якраз наадварот—ён расьце і дужэе з разьвіцьцём прамысловасьці.

Сярэднія станы—дробны прамысловец, дробны крамнік, рамесьнік, селянін — усе яны вядуць барацьбу з буржуазіяй, каб абараніць сваё істнаваньне, як сярэдняга стану, ад заняпаду. Значыць, яны не рэволюцыйныя, а консэрватыўныя. Нават больш—яны рэакцыйныя, бо дамагаюцца павярнуць назад кола гісторыі. Калі яны бываюць рэволюцыйныя, то толькі ў тым выпадку, калі канечны пераход іх у стан пролетарыяту робіцца нямінучым; тады бароняць яны ня сучасныя, а будучыя свае інтарэсы; тады яны пакідаюць свой уласны погляд на рэчы, каб стаць на той пункт погляду, на якім стаіць пролетарыят.

Жабрачы, або непрацоўны пролетарыят (lumpen-proletariat), гэты пасыўны асадак гніеньня старога грамадзянства, месцам захопліваецца рухам пролетарскай рэволюцыі, але, з прычыны сваіх жыцьцёвых умоў, ён больш выяўляе ахвоты прадавацца на службу рэакцыі.

Умовы жыцьця старога грамадзянства ўжо зьнішчаны ў жыцьцёвых умовах пролетарыяту. Пролетарыят ня мае ўласнасьці; яго адносіны да жонкі й дзяцей ня маюць нічога супольнага з буржуазнымі сямейнымі адносінамі; сучасная прамысловая праца, сучаснае ярмо капіталу, —аднакае, як у Англіі, так і ў Францыі, як у Амэрыцы, так і ў Нямеччыне,—сьцерла з яго ўсякія нацыянальныя рысы. Права, мораль, рэлігія сталі для яго толькі чысьленымі буржуазнымі забабонамі, за якімі хаваюцца тыя ці іншыя буржуазныя інтарэсы.

Усе папярэднія клясы, якія здабывалі сабе панаваньне, стараліся забясьпечыць сваё здабытае ўжо жыцьцёвае палажэньне тым, што падбівалі ўсё грамадзянства пад умовы свайго ўласнага нажываньня. Пролетарыят-жа тады толькі заўладае грамадзянскімі продукцыйнымі сіламі, калі зьнішчыць свой уласны папярэдні, а разам з тым і ўсе сучасныя спосабы прыўлашчэньня. Пролетары ня маюць нічога свайго для забесьпячэньня, яны ня маюць свае ўласнасьці; наадварот, яны павінны зьнішчыць усе замацованыя спосабы прыватнага прыўлашчэньня і ўсе ранейшыя спосабы прыватнага забесьпячэньня.

Усе папярэднія рухі былі рухамі меншасьці, або ў інтарэсах меншасьці. Пролетарскі рух ёсьць незалежны рух найвялікшай большасьці ў інтарэсах найвялікшай большасьці. Пролетарыят—найніжэйшы пласт сучаснага грамадзянства—ня можа ўстаць, ня можа выпрастацца, не ўзарваўшы ў паветра ўсю пабудову вышэйшых пластоў,што складаюць сабой афіцыяльнае грамадзянства.

Калі ня зьместам, то формаю, барацьба пролетарыяту проціў буржуазіі зьяўляецца перш за ўсё барацьбою нацыянальнай. Пролетарыят кожнай краіны павінен, з прыроды рэчы, перш за ўсё спачатку скончыць з сваёю ўласнай буржуазіяй.

Такім парадкам, рысуючы самыя агульныя фазы пролетарскага разьвіцьця, мы прасачылі больш-менш прытоеную грамадзянскую вайну ў нетрах сучаснага грамадзянства аж да таго моманту, калі гэтая вайна выбухае ў адкрытую рэволюцыю, і пролетарыят, гвалтам зьвергнуўшы буржуазію, закладае аснову для свайго панаваньня.

Усе папярэднія формы грамадзянскага ладу пабудованы былі, як мы бачылі, на супярэчнасьці пануючых і прыгнечаных кляс. Але каб панаваць над якой-небудзь клясай, то трэба забясьпечыць ёй тыя ўмовы, у якіх яна магла-б, прынамсі, цягнуць сваё нявольніцкае існаваньне. Пры паншчыне прыгонны здабыў сабе, аднак, палажэньне члена комуны, таксама, як дробны мешчанін пад ярмом фэўдальнага абсолютызму вырабіўся на палажэньне буржуя. А сучасны рабочы, наадварот, замест таго, каб падвышацца разам з поступам прамысловасьці, спускаецца штораз ніжэй умоў існаваньня свае ўласнае клясы. Рабочы становіцца ўбогім, а ўбогасьць разьвіваецца яшчэ скарэй, чымсі насяленьне і багацьце. Адгэтуль відаць, што буржуазія няздольна ўжо заставацца далей пануючай клясай і накідаць жыцьцёвыя ўмовы свае клясы ўсяму грамадзянству, як кіруючы закон. Буржуазія ня можа панаваць, бо яна няздольна забясьпечыць свайму нявольніку пражыцьця, нават, у межах яго нявольніцтва, бо яна прымушана дапусьціць заняпад яго да таго палажэньня, у якім яна павінна карміць яго, замест таго, каб ён карміў яе. Грамадзянства ня можа далей жыць пад яе панаваньнем, іначай кажучы,—жыцьцё буржуазіі ня можа быць пагоджана з жыцьцём грамадзянства.

Асноўнай умовай існаваньня й панаваньня клясы буржуазіі зьяўляецца скупчэньне дабра ў руках прыватных асоб, вытварэньне й павялічэньне капіталу. Умовай існаваньня капіталу зьяўляецца наёмная праца. Наёмная праца грунтуецца выключна на конкурэнцыі рабочых паміж сабою. Поступ прамысловасьці, бязвольным і няздольным да адпору дзейнікам якога зьяўляецца буржуазія, ставіць на месца разлучэньня рабочых конкурэнцыяй рэволюцыйную злучнасьць іх пры дапамозе саюзаў. Такім парадкам, разьвіцьцё вялікай прамысловасьці выбівае з-пад ног буржуазіі тую аснову, на якой яна вытварае і прыўлашчае (прысвойвае) сабе продукты. Яна вытварае перш за ўсё свайго ўласнага далакопа. Пагібель буржуазіі і перамога пролетарыяту аднолькава нямінучы.



## II.

## ПРОЛЕТАРЫ Й КОМУНІСТЫЯ.

У якіх адносінах стаяць комуністыя да пролетараў наогул?

Комуністыя не складаюць асобнай партыі, супярэчнай іншым рабочым партыям. У іх няма ніякіх асобных інтарэсаў, якія не супадалі-б з інтарэсамі ўсяго пролетарыяту. Яны не выстаўляюць ніякіх асобных прынцыпаў, на аснове якіх хацелі-б фармаваць рабочы рух.

Комуністыя розьняцца ад іншых пролетарскіх партый толькі тым, што яны, з аднаго боку, у барацьбе рабочых розных нацый і выстаўляюць і бароняць супольныя, незалежныя ад нацыянальнасьці, інтарэсы ўсяго пролетарыяту; з другога боку—тым, што на розных ступенях разьвіцьця барацьбы пролетарыяту з буржуазіяй, яны заўсёды маюць на ўвазе інтарэсы рабочага руху ў яго цэласьці.

Такім парадкам, комуністыя зьяўляюцца на практыцы самай станоўчай, заўсёды выступаючай наперад часткай рабочых партый усіх краёў, а тэорэтычна яны маюць тую перавагу над рэштай пролетарскай масы, што разумеюць умовы, ход і агульныя вынікі пролетарскага руху. Найбліжэйшая мэта комуністых тая самая, што й у другіх рабочых партый: організацыя пролетарскае масы ў клясу, зьвяржэньне панства буржуазіі, заваяваньне пролетарыятам палітычнай улады.

Тэорэтычныя асновы комуністых зусім не апіраюцца на ідэі і прынцыпы, выдуманыя або вынайдзеныя тымі ці іншымі абнаўленцамі сьвету. Асновы комуністых зьяўляюцца толькі агульным выразам фактычных адносін існуючай клясавай барацьбы, тэорэтычным вызначэньнем гістарычнага руху, што адбываецца на нашых вачох. Зьнішчэньне папярэдніх форм уладаньня маемасьцяй не становіць сабою ўласьцівай азнакі комунізму.

Усе формы маемных адносін заўсёды падлягалі гістарычным зьменам, пастаянным гістарычным ператварэньням. Француская рэволюцыя, напрыклад, адмяніла фэўдальную форму ўласнасьці на карысьць уласнасьці буржуазнай.

Характэрнай уласьцівасьцю комунізму зьяўляецца не скасаваньне ўласнасьці наогул, а зьнішчэньне ўласнасьці буржуазнай.

Але сучасная буржуазная ўласнасьць становіць сабою апошняе і самае поўнае выяўленьне продукцыі і прыўлашчэньня продуктаў, аснованае на клясавай супярэчнасьці, на вызыску адных другімі.

У гэтым разуменьні комуністыя могуць выказаць сваю тэорыю адным выразам: скасаваньне прыватнай уласнасьці.

Нас, комуністых, упікаюць тым, нібы-та мы хочам зьнішчыць асабістую ўласнасьць, набытую ўласнаю працай, што мы хочам зьнішчыць тую ўласнасьць, якая становіць падставу кожнай асабістай волі, самадзеяльнасьці і незалежнасьці.

Запрацованая, набытая, заслужоная ўласнасьць! Пра якую-ж, аднак, уласнасьць гаворыце вы? Ці не пра дробнамяшчанскую і сялянскую ўласнасьць, што існавала перад уласнасьцяй буржуазнай? Нам няма патрэбы яе зьнішчаць: разьвіцьцё прамысловасьці зьнішчыла яе і зьнішчае кожны дзень.

А можа гаворыце вы пра сучасную, буржуазную прыватную ўласнасьць?

Дык хіба-ж наёмная праца, праца пролетара вытварае яму ўласнасьць? Ніколі! Яна вытварае капітал,—гэта значыць, уласнасьць, якая вызыскуе (эксплёатуе) наёмную працу; тую ўласнасьць, якая можа павялічацца толькі тады, калі вытварае новую наёмную працу, каб зноў эксплёатаваць яе. Уласнасьць, у яе цяперашняй форме, існуе ў межах супярэчнасьці паміж капіталам і наёмнай працай. Разгледзім-жа абодва бакі гэтай супярэчнасьці.

Быць капіталістым—гэта значыць займаць у продукцыі ня толькі асабістае, але і грамадзянскае палажэньне. Капітал ёсьць продукт зборнай грамадзянскай працы і можа прыводзіцца ў рух толькі супольнай працай чысьленых членаў грамадзянства, а ў апошнім падрахунку —супольнай працай усяго грамадзянства.

Значыць, капітал ёсьць грамадзянская, а не асабістая сіла.

Дзеля гэтага, калі капітал стане супольнай усяму грамадзянству ўласнасьцяй, то гэта ня будзе пératварэньнем прыватнай уласнасьці ў грамадзянскую. Зьменіцца толькі грамадзянскі характар уласнасьці: яна страціць толькі свой клясавы характар.

Пяройдзем да наёмнае працы.

Сярэдняя цана наёмнае працы ёсьць мінімум заработнай платы, або сума жыцьцёвых сродкаў, патрэбных для падтрыманьня жыцьця работніка, як працаўніка. Такім парадкам, таго, што дастае сабе рабочы сваёю працай, выстарчае толькі на падтрыманьне яго голага існаваньня. Мы зусім ня хочам касаваць такога асабістага прыўлашчэньня продуктаў працы, патрэбных для пражыцьця,—таго прыўлашчэньня, што не дае ніякага чыстага прыбытку, які мог-бы даць уладу, панаваньне над чужою працай. Мы хочам толькі зьнішчыць жабрацкі характар гэтага прысвойваньня, дзякуючы якому рабочы жыве толькі дзеля таго, каб прымнажаць капітал, і жыве толькі да тэй пары, покі патрэбна гэта інтарэсам пануючай клясы.



У буржуазным грамадзянстве жывая праца зьяўляецца толькі сродкам памнажэньня сабранай, **скрышталізованай** працы. У комуністычным грамадзянстве сабраная праца будзе служыць сродкам для таго, каб пашырыць, збагаціць, увыгодніць жыцьцё працаўніка.

Значыць, у буржуазным грамадзянстве прошлае пануе над цяперашнім, а ў комуністычным—цяперашняе над прошлым. У буржуазным грамадзянстве капітал мае самадзеяльнасьць і асабістасьць, тады як працоўная асоба пазбаўлена самадзеяльнасьці і зьвязана асабіста.

І зьнішчэньне вось гэткіх адносін буржуазія называе зьнішчэньнем асабістай самадзеяльнасьці й волі! І яна мае рацыю. Справа тут сапраўды йдзе пра зьнішчэньне буржуазнай асабістасьці, буржуазнай самадзеяльнасьці і буржуазнай вольнасьці.

Пад воляй пры цяперашніх буржуазных продукцыйных адносінах разумеюць вольную таргоўлю, вольную купоўлю й продаж.

Але калі падае квотніцтва, шахрайства, то падае таксама і вольная таргоўля. Гучныя словы пра вольную таргоўлю, як і ўсе іншыя велягурыстыя прамовы нашай буржуазіі пра волю наогул, маюць сэнс толькі ў адносінах да паднявольнай таргоўлі, да паднявольнага мяшчаніна сярэдніх вякоў, але не адносна да комуністычнага зьнішчэньня шахрайства, да буржуазных адносін продукцыі і да самой буржуазіі.

Вы абураецеся тым, што мы хочам скасаваць прыватную ўласнасьць. Але-ж у вашым цяперашнім грамадзянстве прыватная ўласнасьць зьнішчана ўжо для дзевяцёх дзесятых усяго грамадзянства. Яна існуе якраз з тае прычыны, што яе ня маюць гэтыя дзевяць дзесятых усіх членаў грамадзянства. Вы ўпікаеце нас, стала быць, у тым, што мы хочам зьнішчыць тую ўласнасьць, канечнай умоваю якой зьяўляецца адсутнасьць яе ў вялізарнай большасьці грамадзянства.

Словам, вы робіце закід нам у тым, што мы хочам зьнішчыць вашую ўласнасьць. І маеце рацыю: гэтага мы, сапраўды, хочам.

З таго моманту, калі праца перастане абарачацца ў капітал, у грошы, у зямельную рэнту, або, карацей кажучы, у грамадзянскую сілу, якую можна монополізаваць; гэта значыць, з таго моманту, калі асабістую ўласнасьць ня можна будзе абярнуць у буржуазную ўласнасьць,—з гэтага моманту, кажаце вы, настане згуба для чалавечае асобы.

Гэтым вы самі прызнаецеся, што пад чалавечай асобай вы разумееце толькі буржуя, уладара буржуазнай уласнасьці. Гэтая асоба, сапраўды, павінна быць зьнішчана.

Комунізм нікому не забароніць прысвойваць вырабы грамадзянскай продукцыі; ён толькі адбярэ магчымасьць карыстацца гэтым прысваеньнем так, каб пры дапамозе яго прыўлашчаць сабе чужую працу.

Закідалі таксама, што пры зьнішчэньні прыватнай уласнасьці прыпыніцца ўсякая дзеяльнасьць і запануе агульнае гультайства.

Калі-б гэта было так, то буржуазнае грамадзянства даўно згінула-б ад агульнага лайдацтва, бо той, хто працуе ў гэтым грамадзянстве, не нажывае нічога, а хто нажывае, той не працуе. Усе гэтыя закіды зводзяцца на таўтолёгію, што ня можа быць наёмнай працы, калі няма капіталу.

Усе закіды, якія накіраваны процiў комуністычнага спосабу продукцыі і прысваеньня матар'яльнага дабра, пашыраюцца таксама і процiў прысваеньня й вытворчасьці дабра духоўнага, змысловага. Як зьнішчэньне клясавага характару ўласнасьці здаецца буржуазіі зьнішчэньнем самой продукцыі, так і зьнішчэньне клясавага характару цяперашняй асьветы здаецца ёй раўнаважным зьнішчэньню асьветы наогул.

Тая асьвета, страціць якую буржуазія баіцца, для агромністай большасьці зьяўляецца толькі падгатоўкай да ролі машыны.

Не спрачайцеся з намі, мераючы зьнішчэньне буржуазнай уласнасьці вашымі буржуазнымі прадстаўленьнямі аб волі, асьвеце, праве і г. д. Вашыя ідэі самі пароджаны буржуазнымі ўмовамі продукцыі і маемнымі адносінамі, таксама, як вашае права ёсьць толькі паднятая на ступень закону воля вашае клясы,—воля, зьмест якое вызначаецца матар'яльнымі ўмовамі жыцьця вашае клясы.

Вы разам з усімі згінуўшымі, панаваўшымі раней клясамі трымаецеся таго староннага погляду на рэчы, подлуг якога вашыя продукцыйныя і маемныя адносіны вы абарачаеце з адносін гістарычных, праміна-ючых разам з разьвіцьцём, у вечныя законы природы й розуму. Тое, што зразумела вам у адносінах да ўласнасьці старажытнай і фэўдальнай, становіцца незразумелым для вас, як толькі справа даткнецца буржуазнай уласнасьці.

Зьнішчэньне сям'і! Нават самыя заўзятыя радыкалы з абурэньнем паўстаюць процiў гэтых ганебных намераў комуністых.

На чым-жа трымаецца буржуазная сям'я? На капітале, на асабістай нажыве. У поўнай, разьвіненай форме, якая існуе толькі для буржуазіі, але яна знаходзіць сваё дапаўненьне ў прымусовай бесьсямейнасьці пролетараў і ў адкрытай проституцыі.

Буржуазная сям'я нямінуча павінна раскідацца разам з упадкам гэтага дапаўненьня, а тое і другое зьнікнуць разам з зьнішчэньнем капіталу.

А можа вы ўпікаеце нас у тым, што мы хочам зьнішчыць эксплёатацыю дзяцей бацькамі? Мы прызнаёмся ў гэтым злачынстве.

Вы кажаце нам, што мы зьнішчаем самыя дарагія, самыя душэўныя пачуцьці, калі хочам паставіць на месца хатняга выхаваньня выхаваньне грамадзянскае.

А хіба вашае выхаваньне не вызначаецца так-жа грамадзянствам, грамадзянскімі адносінамі? Хіба яно не залежыць ад тых адносін, сярод



якіх адбываецца, і хіба яно не падлягае простаму і ўскоснаму ўплыву гэтага грамадзянства праз організацыю школы і г. д.? Комуністыя ня выдумалі грамадзянскага ўплыву на выхаваньне. Яны зьмяняюць толькі характар гэтага выхаваньня, вызваляючы яго з-пад уплыву пануючае клясы.

Буржуазныя пагаданкі пра сям'ю і выхаваньне, пра замілаваньне паміж дзяцьмі і бацькамі становяцца тым больш праціўнымі, чым скарэй вялікая прамысловасьць разрывае ўсе сямейныя сувязі сярод пролетарыяту, а дзеці рабочых абарачаюцца ў простыя прадметы таргоўлі, у рабочае начэньне.

Але вы, комуністыя, хочаце завесьці супольнасьць жанок!—хорам крычыць уся буржуазія.

Буржуй глядзіць на сваю жонку, як на простае начэньне для продукцыі. Ён чуе, што прылады продукцыі павінны перайсьці ў супольнае карыстаньне, і, з природы рэчы, пачынае думаць, што й жанкі стануць прадметам супольнага ўжытку.

Яму і ў голаў ня прыйдзе, што справа йдзе аб тым, каб вызваліць жанчыну з таго палажэньня, у якім яна зьяўляецца простым начэньнем продукцыі.

Зрэштай, няма нічога сьмяшнейшага, як высока-моральнае абурэньне нашых буржуёў процiў нібыта офіцыяльнай супольнасьці жанок пры комуністычным ладзе. Тымчасам, комуністым няма патрэбы заводзіць супольнасьць жанок, бо гэтая супольнасьць была бадай што заўсёды.

Нашыя буржуі не здавальняюцца тым, што распараджаюцца жанкамі й дачкамі рабочых, ня кажучы ўжо пра офіцыяльную проституцыю; яны знаходзяць яшчэ асаблівую прыемнасьць у тым, што спакушаюць жанок адзін у другога.

У рачавістасьці буржуазнае малажонства (шлюб) зьяўляецца супольнасьцю жанок. Комуністых можна было-б упікнуць хіба ў тым, што яны хочуць паставіць адкрытую супольнасьць жанок на месца брыдкай, патаемнай. Але, само сабою разумеецца, што, разам з зьнішчэньнем цяперашніх продукцыйных адносін, зьнішчыцца таксама і пароджаная імі супольнасьць жанок, або офіцыяльная і неофіцыяльная проституцыя.

Комуністых упікаюць далей у тым, што яны выступаюць процi айчыны і нацыянальнасьці.

Рабочыя ня маюць айчыны. У іх нельга адабраць таго, чаго яны ня маюць. Але дзеля таго, што пролетарыят перш за ўсё мусіць заваяваць сабе палітычную ўладу, паднесьціся да палажэньня нацыянальнае клясы, абярнуць сябе самога ў нацыю, то ён тым самым мусіць заставацца нацыянальным, хоць зусім ня ў тым сэнсе, як разумее гэта буржуазія.

Нацыянальнае адмежаваньне розных народаў і супярэчнасьць інтарэсаў гэтых народаў ужо цяпер зьнікае штораз больш і больш пад уплывам разьвіцьця буржуазіі, вольнай таргоўлі, сусьветнага рынку, аднастайнасьці прамысловай продукцыі і ўласьцівых ёй умоў жыцьця.

Панаваньне пролетарыяту яшчэ больш прымусіць іх зьнікнуць. Злучаная дзеяльнасьць, прынамсі, усіх цывілізованых краін зьяўляецца першай умовай вызваленьня пролетарыяту.

У тэй самай меры, як будзе зьнішчацца эксплёатацыя аднае асобы другою, будзе зьнішчацца эксплёатацыя аднае нацыі другою. Разам з зьнішчэньнем клясавай супярэчнасьці ў сярэдзіне нацыі зьнікнуць і варожыя адносіны паміж нацыямі.

Абвінавачаньне комуністых з боку рэлігійнага, філёзофскага і, наогул, з ідэолёгічнага погляду не заслугуюць, нават, таго, каб іх дакладна разьбіраць.

Хіба трэба глыбокага розуму на тое, каб зразумець, што, разам з жыцьцёвымі ўмовамі людзей, з іх грамадзянскімі адносінамі, з грамадзянскім быцьцём, зьмяняюцца і іх прадстаўленьні, погляды, паняцьці,—словам, зьмяняецца іх сьвядомасьць, іх сьветаразуменьне.

Што-ж іншае даводзіць гісторыя ідэй, калі ня тое, што разумовая вытворчасьць зьмяняецца разам з вытворчасьцю матар'яльнай? Пануючымі ідэямі часу заўсёды былі толькі ідэі пануючых кляс.

Калі гаворадь пра ідэі, што рэволюцыянізуюць цэлае грамадзянства, то гэтым выслаўляюць толькі той факт, што сярод старога грамадзянства нарадзіліся элемэнты новага, што, поруч з упадкам старых умоў жыцьця, ідзе ўпадак і старых ідэй.

Калі старажытны сьвет прышоў да заняпаду, то старавечныя рэлігіі былі пераможаны хрысьціянскай рэлігіяй. Калі хрысьціянскія ідэі былі падолены ў 18-м веку асьветнымі ідэямі, то фэўдальнае грамадзянства давала апошні бой рэволюцыйнай тады буржуазіі. Ідэі волі, сумленьня й рэлігіі выражалі сабою толькі панаваньне вольнай конкурэнцыі на полі веды.

Праўда,—скажуць нам,—ідэі рэлігійныя, звычаёвыя (моральныя), філёзофскія, політычныя, праўныя і г. д. зьмяняліся адпаведна поступу гістарычнага разьвіцьця, але сама рэлігія, звычаёвасьць (моральнасьць), філёзофія, політыка, права застаюцца заўсёды сярод гэтых бязупынных зьмен. А да таго, існуюць вечныя ісьціны, як воля, справядлівасьць і г. д., уласьцівыя ўсім зьменам формаў грамадзянскага разьвіцьця. А комунізм хоча зьнішчыць гэтыя вечныя ісьціны; ён зьнішчае рэлігію, мораль, замест таго, каб пературыць іх нанава, а гэта значыць, што ён супярэчыць усяму папярэдняму ходу гістарычнага разьвіцьця.

Да чаго прыводзяць гэтыя закіды? Гісторыя ўсяго папярэдняга грамадзянства адбывалася ў барацьбе клясавых супярэчнасьцяй, якія ў розныя эпохі складаліся розна.



Але якую-б форму ня прымалі яны, эксплёатацыя аднэй часьціны грамадзянства другою зьяўляецца фактам, уласьцівым усім прошлым вякам. І ня дзіва, што грамадзянская сьвядомасьць усіх вякоў, не зважаючы на ўсю адменнасьць і разнастайнасьць, выяўляецца ў пэўных супольных формах, у формах сьвядомасьці, якія зусім зьнікнуць толькі тады, калі зьнішчацца клясавыя супярэчнасьці.

Комуністычная рэволюцыя найрадыкальнейшым спосабам парывае з традыцыйнымі маемнымі адносінамі, і ня дзіва, што ў процэсе яе разьвіцьця адбываецца самы радыкальны разрыў з традыцыйнымі (звыклымі) ідэямі.

Але пакінем закіды буржуазіі проціў комунізму.

Мы ўжо бачылі вышэй, што першым крокам рабочае рэволюцыі павінна быць паднясеньне пролетарыяту на ступень пануючае клясы, заваяваньне дэмократыі.

Пролетарыят выкарыстае сваю політычную ўладу для таго, каб паступова адабраць у буржуазіі ўвесь капітал, каб цэнтралізаваць усе прылады продукцыі ў руках дзяржавы,—гэта значыць, у руках з'організаванага, як пануючая кляса, пролетарыяту—і па магчымасьці скарэй павялічыць масу продукцыйных сіл.

Зусім зразумела, што ў пачатку гэта можа быць зьдзейсьнена спосабамі дэспотычнага гвалту над правам уласнасьці і буржуазнымі продукцыйнымі адносінамі,—гэта значыць, спосабамі, якія з экономічнага боку здаюцца няпрыдатнымі і невыстарчальнымі, але якія з ростам руху перарастаюць самых сябе, становяцца сілай нячуванай і зьяўляюцца нямінучымі, як сродак для пературэньня ўсяго способу продукцыі.

Зразумела, што ўсе гэтыя спосабы ў розных краёх будуць розныя, але ў найбольш цывілізованых краёх блізка што ўсюды могуць быць ужыты наступныя агульныя заходы:

1) Экспропрыяцыя зямельнай уласнасьці і аддача зямельнай (грунтавой) рэнты на дзяржаўныя выдаткі.

2) Высокі прогрэсыўны падатак.

3) Скасаваньне права спадчыны.

4) Конфіската маемасьці ўсіх эмігрантаў і мяцежнікаў.

5) Цэнтралізацыя крэдыту ў руках дзяржавы праз нацыянальныя банкі з дзяржаўным капіталам і бязумоўным монополем.

6) Цэнтралізацыя транспорту ў руках дзяржавы.

7) Павялічэньне ліку дзяржаўных фабрык і прылад продукцыі, абработка і паляпшэньне палёў па агульнаму пляну.

8) Роўная абавязковасьць працы для ўсіх, утварэньне прамысловых армій, асабліва—для земляробства.

9) Аб'яднаньне земляробства з індустрыяй, паступовае зьнішчэньне розьніцы паміж горадам і вёскай.

10) Грамадзянскае і дармовае выхаваньне ўсіх дзяцей. Забарона фабрычнай працы дзяцей у яе цяперашняй форме. Злучэньне выхаваньня з матар'яльнай продукцыяй і г. д.

Калі ў ходзе разьвіцьця згінуць клясавыя супярэчнасьці, і ўся продукцыя скупчыцца (сконцэнтруецца) у руках ставарышованых у саюзы людзей, тады публічная ўлада страціць свой палітычны характар. Палітычная ўлада, у яе ўласьцівым значэньні, ёсьць організованая сіла аднае клясы дзеля прыгняценьня другой. Калі пролетарыят у барацьбе з буржуазіяй з канечнасьці організуецца ў клясу, калі ён шляхам рэволюцыі становіцца пануючай клясай ды, як пануючая кляса, гвалтоўна касуе старыя продукцыйныя адносіны, то разам з гэтымі продукцыйнымі адносінамі ён зьнішчае ўмовы існаваньня клясавай супярэчнасьці і клясы наогул, а тым самым і сваё клясавае панаваньне.

Месца старога буржуазнага грамадзянства з яго клясамі і клясавымі супярэчнасьцямі займае таварыства, дзе вольнае разьвіцьцё кожнага зьяўляецца ўмовай вольнага разьвіцьця для ўсіх.

## III.

## СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ і КОМУНІСТЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА.

### 1. Рэакцыйны соцыялізм.

*а) Фэўдальны соцыялізм.*

Француская і ангельская арыстократыя сваім гістарычным палажэньнем як-бы павалана была пісаць памфлеты проціў сучаснага ёй буржуазнага грамадзянства. Подчас ліпнёвай францускай рэволюцыі 1830 г. і ангельскага рэформацыйнага руху яна яшчэ раз была пабіта ненавіснаю ёй выскачкаю. Аб паважнай палітычнай барацьбе не магло ўжо быць і мовы. Заставалася ёй толькі літаратурная барацьба. Але й на літаратурным полі стала ўжо немагчыма гаварыць старыя фразы часоў рэстаўрацыі *). Каб выклікаць да сябе прыхільнасьць, арыстократыя мусіла прыкінуцца, што яна ня мае на ўвазе сваіх інтарэсаў і вінаваціць буржуазію толькі дзеля таго, каб бараніць інтарэсы рабочае клясы. Яна, такім спосабам, знайшла сабе здавальненьне ў тым, што строіла кпіны з свайго новага пана ды шаптала яму на вуха больш або менш страшныя прароцтвы.

Тэк паўстаў фэўдальны соцыялізм, які прыняў форму трохі жаласнай песьні, трохі кпін, трохі водгуку прошлага, трохі пагрозы будучынай.

*) Тут маецца на ўвазе не ангельская рэстаўрацыя 1660—1689 г. г., а француская 1814—1830 г. г. *(Ўвага Энгэльса).*



Подчас яна балюча пражыла буржуазію ў самае сэрца сваім горкім, востра-хітрым прысудам, але заўсёды выклікала сьмешнае ўражаньне сваёю поўнай няздатнасьцю зразумець поступ сучаснай гісторыі.

Каб прывабіць да сябе народ, арыстократыя махала жабрацкай торбай пролетарыя, як сьцягам. Але кожны раз, як толькі зьбіраўся народ пад гэты сьцяг, то зараз-жа спасьцерагаў на сьпінах сваіх правадыроў старыя арыстократычныя гэрбы ды разьбягаўся з моцным абразьлівазьняважлівым рогатам.

Такую вясёлую камэдыю ў найбольш тыповым яе выглядзе, найчасьцей паказвалі сьвету часьць францускіх легітымістых і „Маладая Англія“.

Калі фэўдалы даводзяць, што іх спосаб эксплёатацыі быў зусім іншы, як буржуазная эксплёатацыя, то яны забываюць аб адным, што іх эксплёатацыя адбывалася пры зусім іншых, цяпер ужо аджытых, акалічнасьцях і ўмовах. Калі яны паказваюць, што пры іх панаваньні ня было цяперашняга пролетарыяту, то зноў-жа забываюць, што якраз цяперашняя буржуазія была канечным пасынкам іх грамадзянскай гаспадаркі.

А зрэштай, яны зусім не хаваюць рэакцыйнага характару свае крытыкі і вінавацяць буржуазію, галоўным чынам, у тым, што пры панаваньні буржуазіі разьвіваецца тая кляса, якая ўзарве ў паветра ўвесь стары грамадзянскі лад.

Яны далёка больш вінавацяць буржуазію ў тым, што яна творыць рэволюцыйны пролетарыят, як у тым, што яна гадуе пролетарыят наогул.

З гэтай прычыны, у палітычнай практыцы яны дапамагаюць усім гвалтоўным заходам проціў рабочае клясы, а ў звычайным жыцьці наперакор сваім прыгожым словам, зьбіраюць залатыя яблыкі і не бяз прыбытку для сябе, пашахрайску мяняюць сваю „вернасьць“, „любоў“ і „гонар“ на воўну, буракі або гарэлку. *)

Як поп заўсёды йшоў поплеч з фэўдалам, так і „хрысьціянскі“ соцыялізм ідзе поруч з фэўдальным.

Няма нічога лягчэйшага, як надаць хрысьціянскаму аскетызму соцыялістычную ахварбоўку. Хіба хрысьціянства не змагалася таксама з прыватнай уласнасьцю, з малажонствам, з дзяржавай? Хіба не навучала яно ставіць на месца іх дабрачыннасьць і жабрацтва, бясшлюбнасьць і паскрамленьне цела, чарнецтва й царкву? Хрысьціянскі соцыялізм—гэта толькі сьвянцоная вада, якою поп сьвянціў гнеў арыстократыі.

*) Гэта адносіцца, галоўным чынам, да Нямеччыны, дзе зямельная арыстократыя і юнкеры наёмнымі экономамі абрабляюць большую частку сваіх маёнткаў на ўласны кошт. Яны садзяць буракі для цукру і выганяюць шмат сьпірытусу. Больш багатая брытанская арыстократыя саромісца гэтага, але й яна ўмее нагарадзіць сябе за страты ад паніжэньня рэнты, прадаючы сваё імя, каб прыкрыць махлярства некаторых цёмных акцыянэрных кампаній. (*Энгэльс*).

*b) Дробна-буржуазны соцыялізм.*

Фэўдальная арыстократыя ня была адзінаю клясай, якую скінула буржуазія, ні адны толькі яе жыцьцёвыя ўмовы ссохлі й згінулі ў цяперашнім буржуазным грамадзянстве. Сярэдневяковае мяшчанства і дробнае сялянства былі папярэднікамі цяперашняй буржуазіі. У краёх, мала разьвітых у прамысловых і таргових адносінах, гэтая кляса яшчэ жыве—гібее поруч з буржуазіяй, якая ўсё больш вырастае.

У тых краёх, дзе разьвінулася сучасная цывілізацыя, утварылася новая дробная буржуазія, якая хістаецца паміж пролетарыятам і буржуазіяй, і, як дапаўняючая часьціна буржуазнага грамадзянства, пастаянна зноў вытвараецца. Паасобныя члены яе бязупынна сьпіхаюцца конкурэнцыяй у рады пролетарыяту, а разьвіцьцё вялікай прамысловасьці наблізае ўжо той час, калі гэтая віхлястая часьціна буржуазіі згіне саўсім, як незалежная часьць цяперашняга грамадзянства, а яе месца ў таргоўлі, мануфактуры й землеробстве зоймуць наглядчыкі й слугі.

У такіх краёх, як Францыя, дзе сялянства складае пераважную большасьць насяленьня, было рэччу натуральнай, што пісьменьнікі, выступаўшыя на абарону рабочых ад буржуазіі, прыкладалі ў сваёй крытыцы буржуазнага парадку дробна-мяшчанскую і дробна-сялянскую мерку і баранілі пролетарыят з погляду на інтарэсы дробнай буржуазіі. Так паўстаў дробна-буржуазны соцыялізм. Сісмонды зьяўляецца правадыром гэтага кірунку ў літаратуры ня толькі для Францыі, але й для Англіі.

Гэты соцыялізм вельмі трапна раскрываў супярэчнасьці ў сучасных продукцыйных адносінах. Ён выводзіў на чыстую воду падманныя прыкрасы буржуазных экономістых. Ён з неабвяржымай праўдзівасьцю давёў згубны ўплыў машыннага спосабу продукцыі і падзелу працы, концэнтрацыю капіталаў і зямельнай уласнасьці, надмерны выраб тавараў (перапродукцыю), крызісы, нямінучы заняпад дробнага мяшчанства й сялян, зубожаньне пролетарыяту, анархію ў продукцыі, абураючую несправядлівасьць у падзеле багацьця, згубную прамысловую вайну народаў паміж сабою, заняпад старой звычаёвасьці (маралі), старых сямейных адносін, старых нацыянальнасьцяй.

Але сваім дадатным (позітыўным) зьместам гэты соцыялізм хоча або вярнуць назад старыя спосабы продукцыі і памену, а разам з гэтым і старыя маемныя адносіны і стары грамадзянскі лад, або стараецца цяперашнія спосабы продукцыі і памену гвалтам уціснуць у рамкі старых маемных адносін, якія былі і мусілі быць зьнішчаны якраз гэтымі спосабамі. У абодвух выпадках гэты соцыялізм рэакцыйны, а разам з тым і ўтопічны (нязбыўны).

Цэхавы лад у прамысловасьці і патрыярхальная гаспадарка ў вёсцы —вот яго апошняе слова.



У сваім далейшым разьвіцьці гэты кірунак у соцыялізьме вырадзіўся ў палахлівае ныцьцё й нараканьне.

*c) Нямецкі, або „сапраўдны“ соцыялізм.*

Соцыялістычная і комуністычная літаратура, што паўстала пад націскам панаваньня буржуазіі і зьяўлялася літаратурным выяўленьнем барацьбы проціў гэтага панаваньня, была перанесена ў Нямеччыну якраз тады, калі тутэйшая буржуазія адно што распачынала сваю барацьбу проціў фэўдальнага абсолютызму.

Нямецкія філёзофы, напоў-філёзофы і палацовыя мудрацы з прагавітасьцю накінуліся на гэтую літаратуру, забыўшы толькі адно, што, разам з францускай літаратурай, не перасяліліся ў Нямеччыну францускія ўмовы жыцьця. Сярод нямецкіх абставін грамадзянскага жыцьця француская літаратура страціла сваё беспасярэдне-практычнае значэньне і прыняла чыста літаратурны характар. Яна мусіла абярнуцца там у марнае разважаньне пра патрэбы, уласьцівыя чалавечай прыродзе. Такім парадкам, патрэбы першай францускай літаратуры для нямецкіх філёзофаў XVIII-га веку мелі толькі значэньне патрэб „практычнага розуму“, а выяўленьне волі рэволюцыйнай францускай буржуазіі прадстаўлялася ім, як выяўленьне законаў чыстае волі,—такой волі, якою яна павінна быць—праўдзівай людзкай волі.

Уся праца нямецкіх пісьменьнікаў палягала ў тым, каб пагадзіць новыя францускія ідэі з сваім старым філёзофскім сумленьнем, або, лепш сказаць, каб прысвоіць сабе францускія ідэі, застаючыся на старым філёзофскім грунце.

Гэтае прысваеньне адбывалася тым самым спосабам, якім, наогул, вучацца чужаземнай мове,—з дапамогаю перакладу.

Вядома, як сярэдневяковыя манахі запісвалі на рукапісах клясычных твораў старажытнага паганскага сьвету недарэчныя, баечныя апавяданьні пра каталіцкіх сьвятых. Нямецкія літаратары абыходзіліся з францускай літаратурай якраз наадварот. Яны прыпісвалі сваю філёзофскую бяссэнсіцу ў канцы,—пасьля францускага орыгіналу. Так, напрыклад, француская крытыка грашовай гаспадаркі выступала ў іх пад постацяй „вырачэньне людзкай істоты“, а француская крытыка буржуазнай дзяржавы зьяўлялася ў іх, як „зьнішчэньне панаваньня абстрактнага ўсеагулу“,

Пад францускую рачавістасьць яны падставілі свае філёзофскія мудраваньні ды ахрысьцілі іх „філёзофіяй дзеяньня“, „сапраўдным соцыялізмам“, „нямецкай навукай соцыялізму“, „філёзофскім абгрунтаваньнем соцыялізму“ і г. д.

Такім чынам, француская соцыялістычная і комуністычная літаратура была цалкам выхалашчана. І калі яна, пасьля гэтай опэрацыі, перастала выражаць барацьбу кляс, то немец стаў ганарыцца, што ён перамог, па-

долаў „французкую аднабокасьць“, і выхваляцца тым, што ён бароніць, замест праўдзівых патрэб, патрэбы ў праўдзе, замест інтарэсаў пролетарыяту—інтарэсы чалавечай істоты, чалавека наогул,—чалавека, каторы не належыць ні да якай клясы, а значыць, існуючага ня ў рэальнай рачавістасьці, а ў імжыстым небе філёзофскай фантазіі.

Гэты нямецкі соцыялізм, што так паважна і ўрачыста адносіўся да сваіх нязграбных школьна-вучнёўскіх практыкаваньняў і з такім рыначным крыкам агалашаў іх усяму сьвету,—гэты соцыялізм паволі траціў сваю пэдантычную нявіннасьць.

Барацьба нямецкае, галоўным чынам, прускае буржуазіі з фэўдаламі і каралеўскім абсолютызмам,—адным словам, лібэральны рух станавіўся паважнейшым.

„Сапраўднаму соцыялізму“ выдаўся тады пажаданы мамэнт працівапаставіць політычнаму руху соцыялістычныя вымаганьні, кінуць традыцыйныя праклёны на лібэралізм, на конституцыйную дзяржаву, на буржуазную конкурэнцыю, на буржуазную волю друку, на буржуазнае права, на буржуазную волю й роўнасьць ды апавесьціць народнай масе, што ў гэтым буржуазным руху яна нічога ня прыдбае, а хутчэй рызыкуе ўсё страціць. Нямецкі соцыялізм якраз учасна забыўся, што французская крытыка, недарэчным адбіткам якой ён быў, прыпускае сучаснае буржуазнае грамадзянства з адпаведнымі матар'яльнымі ўмовамі жыцьця і політычным ладам; гэта значыць, якраз тыя папярэднія ўмовы, пра заваяваньне якіх у Нямеччыне толькі што распачыналася гаворка.

Такі соцыялізм служыў нямецкім абсолютным урадам з іх пачэснаю вартаю папоў, школьных настаўнікаў, юнкероў і бюрократаў пажаданым страшыдлам процiў грознага наступу буржуазіі. Ён быў цукровым дадаткам да горкіх пабояў бізунамі й кулямі, якімі гэтыя ўрады адказвалі на паўстаньні нямецкіх рабочых.

Калі „сапраўдны соцыялізм“, з аднаго боку, служыў зброяй у руках ураду процiў нямецкай буржуазіі, то з другога боку, ён беспасрэдна бараніў рэакцыйныя інтарэсы,—інтарэсы нямецкага мяшчанства.

У Нямеччыне дробная буржуазія мяшчанства перайшоўшая ў спадчыну ад XVI-га сталецьця і з таго часу выплываўшая ў розных формах наверх подчас усялякіх гістарычных завірух, становіць сабою сапраўдную грамадзянскую падставу для пануючага політычнага ладу.

Захаваньне дробнай буржуазіі зьяўляецца захаваньнем пануючага ладу ў Нямеччыне. Яна баіцца прамысловага і політычнага панаваньня буржуазіі, бо гэта пагражае ёй нямінучай гібельлю з прычыны концэнтрацыі капіталаў з аднаго боку і дзякуючы росту рэволюцыйнага пролетарыяту—з другога. Ёй здавалася, што „сапраўдны соцыялізм“ забівае двух зайцоў зараз, і гэтая форма соцыялізму пашыралася, як пошасьць.



Убраньне, вытканае з разумова-спэкуляцыйнага павуціньня, аздобленае замысловатымі кветкамі красамоўства, змочанае сьлязьмі чульлівай пачуцьцёвасьці,—гэтае надта шырокае ўбраньне, у якое нямецкія соцыялістыя прыбралі некалькі сваіх кастлявых „вечных ісьцін“, памнажала толькі збыт іх тавару сярод гэтай публікі.

З свайго боку, нямецкі соцыялізм усё больш пазнаваў сваё прызначэньне быць высакамоўным заступнікам гэтага мяшчанства.

Ён абвесьціў нямецкую нацыю нормальнай нацыяй, а нямецкага мешчаніна—нормальным чалавекам У кожнай яго падлоце ён шукаў нечага патаемнага, прыхованага вышэйшага соцыялістычнага зьместу і надаў яму, такім спосабам, проста працілежнага значэньня. Нарэсьце, ён зрабіў апошні паступовы вывад, калі выступіў проста процiў „грубаруйнуючага“ кірунку ў комунізьме ды абвесьціў, што ў сваёй партыйнай бесстароннасьці ён стаіць вышэй за ўсякую клясавую барацьбу. Уся, хадзіўшая ў Нямеччыне так званая соцыялістычная і комуністычная літаратура, належыць, за невялікім выключэньнем, да гэтае бруднае аслабляючае пісаніны.*)

### 2. Консэрватыўны, або буржуазны соцыялізм.

Часьціна буржуазіі хоча адхіліць цяперашняе грамадзянскае ліха, каб утрываліць існаваньне буржуазнага ладу.

Сюды належаць: экономістыя, дабрачынцы, гуманістыя, рэформатары, што хочуць палепшыць стан рабочае клясы, організатары дабрачыннасьці, апякуны над жывёлай, фундатары гурткоў цьверазасьці, дробныя рэформатары самага стракатага гатунку. Гэты буржуазны соцыялізм нават апрацован быў у цэлыя сыстэмы.

Для прыкладу можна паказаць на „Філёзофію ўбогасьці“ Прудона.

Соцыялістычныя буржуі хочуць захаваць усе жыцьцёвыя формы цяперашняга грамадзянства, толькі ня хочуць яны тэй барацьбы й небясьпекі, што нямінуча выплываюць з гэтага буржуазнага ладу. Яны хочуць захаваць цяперашняе грамадзянства, пазбавіўшы яго тых элемэнтаў, якія яго рэволюцыянізуюць і руйнуюць. Яны хочуць буржуазіі без пролетарыяту. Зусім натуральна, што буржуазія ўважае той сьвет, у якім яна пануе, за найлепшы сьвет. Буржуазны соцыялізм вытварае з гэтай салодкай фантазіі больш-менш поўную сыстэму. Калі ён запрашае пролетарыят зьдзейсьніць гэтую сыстэму ды ўвайсьці, такім спосабам, у новы Ерузалім, то ў істоце рэчы ён хоча аднаго, каб пролетарыят і надалей заставаўся ў цяперашнім грамадзянстве, толькі каб перастаў яго ненавідзець.

*) Рэволюцыйная бура 1848 г. зьмяла ўвесь гэты нікчэмны кірунак і адбіла ў яго прадстаўнікоў усялякую ахвоту забаўляцца ў соцыялізм. Галоўным прадстаўніком і клясычным тыпам гэтага кірунку быў Кароль Грюн. *(Увага з нямецкага выданьня 1872 г.).*

Другая, менш сыстэматычная, але больш практычная, форма гэтага соцыялізму стараецца адвярнуць рабочых ад усякага рэволюцыйнага руху, даводзячы, што ім могуць прынесьці карысьць ня тыя ці іншыя політычныя зьмены, а зьмены матэрыяльных жыцьцёвых умоў, зьмены экономічных адносін. Але пад зьменаю матэрыяльных умоў жыцьця гэты соцыялізм разумее ня зьнішчэньне буржуазных продукцыйных адносін, што дасягаецца толькі рэволюцыйным спосабам, а толькі адміністрацыйныя паляпшэньні на грунце пануючых продукцыйных адносін, што, такім парадкам, нічога не зьмяняе ў адносінах капіталу да наёмнае працы; у лепшым выпадку, гэта памяншае выдаткі на панаваньне буржуазіі ды робіць прасьцейшаю яе дзяржаўную гаспадарку.

Найбольш адпаведнага выяўленьня буржуазны соцыялізм дасягае там, дзе ён абарачаецца ў просты аратарскі зварот прамовы.

Вольнасьць таргоўлі ў інтарэсах рабочае клясы! Дапаможнае мыта ў інтарэсах рабочых! Адзіночныя турмы ў інтарэсах рабочае клясы! Вось апошняе і сапраўды шчырае слова буржуазнага соцыялізму!

Увесь буржуазны соцыялізм зводзіцца да цьвярджэньня таго, што вызыскачы (эксплёататар) ёсьць вызыскачы ў інтарэсах рабочае клясы.

### 3. Крытычна-утопічны соцыялізм і комунізм.

Мы гаворым тут пра тую літаратуру, якая ва ўсіх вялікіх рэволюцыях новага часу выяўляла дамаганьні пролетарыяту (творы Бабэфа і іншых).

Першыя спробы пролетарыяту ў часе ўсеагульнага забурэньня пры зьвяржэньні фэўдальнага ладу беспасрэдна зьдзейсьніць свае ўласныя клясавыя інтарэсы нямінуча мусілі разьбіцца, як з прычыны неразьвіненага стану самога пролетарыяту, так і з прычыны таго, што бракавала матэрыяльных умоў для яго вызваленьня, якія вытвараюцца толькі пры буржуазным ладзе. Рэволюцыйная літаратура, таварышаваўшая гэтым першым пролетарскім рухам, сваім зьместам не магла ня быць рэакцыйнай. Яна навучае ўсеагульнаму аскетызму і штучнай грубай роўнасьці.

Уласна соцыялістычныя і комуністычныя сыстэмы—сыстэмы Сэн-Сімона, Фур'е, Овэна і іншых зьявіліся ў часе першай неразьвіненай яшчэ барацьбы пролетарыяту з буржуазіяй, якую мы нарысавалі вышэй (Бач. „Буржуа і пролетары").

Тварцы гэтых сыстэм хоць бачаць ужо супярэчнасьць кляс і ўплывы руйнуючых элемэнтаў у самым пануючым грамадзянстве, але яны не спасьцерагаюць у пролетарыяце ніякай гістарычнай самадзеяльнасьці, ніякага ўласьцівага яму політычнага руху.

Дзеля таго, што разьвіцьцё клясавай супярэчнасьці йдзе поруч з разьвіцьцём прамысловасьці, то яны не знаходзяць таксама і матэрыяльных умоў для вызваленьня пролетарыяту ды шукаюць соцыяльнай навукі, соцыяльных законаў для вытварэньня гэтых умоў.



На месца грамадзянскай самадзеяльнасьці яны ставяць асабістую творчую самадзеяльнасьць, на месца гістарычных умоў вызваленьня—штучнавыдуманыя ўмовы, на месца паступовай організацыі пролетарыяту ў клясу—імі самымі выдуманую організацыю грамадзянства. Будучая гісторыя ўсяго сьвету рысуецца ім, як навучаньне і практычнае ажыцьцяўленьне іх грамадзянскіх плянаў.

Яны разумелі, праўда, што ў сваіх рэформатарскіх плянах абараняюць перш за ўсё інтарэсы пролетарыяту, як найбольш пакутуючай клясы, але не разумелі яны таго, каб пролетарыят мог быць нечым іншым, як пакутуючая кляса ў цяперашнім грамадзянстве.

Неразьвітая форма клясавай барацьбы, а таксама і іх асабістае палажэньне ў жыцьці наводзяць іх на думку, што яны стаяць вышэй над гэтай клясавай барацьбой. Яны хочуць палепшыць жыцьцёвы стан для ўсіх членаў грамадзянства, не выключаючы нават і тых, хто карыстаецца ўсімі выгодамі жыцьця. Дзеля гэтага яны заўсёды зварачаюцца да ўсяго грамадзянства бяз ніякай розьніцы і нават пераважна да пануючай клясы. Яны думалі, што трэ' толькі зразумець іх сыстэму, каб прызнаць яе за найлепшы плян найлепшага грамадзянскага ладу.

З гэтай прычыны яны адкідаюць усякую політычную, асабліва рэволюцыйную дзейнасьць. Яны хочуць дасягнуць свае мэты мірным парадкам, прабуючы працерабіць дарогу новай грамадзянскай эвангэльлі дробнымі і, разумеецца, заўсёды няўдалымі спробамі, сілаю прыкладу.

Фантазійнае апісаньне будучага грамадзянства зьяўляецца на сьвет тады, калі пролетарыят стаіць яшчэ на пачатковай ступені свайго разьвіцьця, а праз гэта і сам прадстаўляе сваё палажэньне фантастычна. Гэтае прадстаўленьне зусім адпавядае яго першым, поўным прадчуваньня, імкненьням да ўсеагульнай перабудовы грамадзянскага ладу.

Але ў гэтых соцыялістычных і комуністычных творах ёсьць таксама й крытычныя элемэнты. Яны нападаюць на ўсе падставы сучаснага грамадзянства і гэтым даюць вельмі цэнны матэрыял для ўсьведамленьня рабочых. Іх дадатныя пагляды на будучыну грамадзянства, напрыклад, на зьнішчэньне працілежнасьці паміж горадам і вёскай, на зьнішчэньне сям'і, прыватнай уласнасьці, наёмнай працы, на абвешчаньне грамадзянскага суладзьдзя (гармоніі), перабудову дзяржавы ў простае кіраўніцтва продукцыяй,—усе гэтыя іхнія думкі выяўляюць толькі зьнішчэньне тае супярэчнасьці кляс, якая адношта пачынала разьвівацца і была вядома творцам гэтай сыстэмы ў яе пачатковай, нявыразнай форме. Дзеля гэтага, усе іх пагляды маюць чыста утопічны характар.

Значэньне крытычна-утопічнага соцыялізму й комунізму стаіць у вадваротных адносінах да гістарычнага разьвіцьця. Гістарычнае разьвіцьцё ступянёва зьнішчае значэньне гэтага соцыялізму. У тэй самай меры, як разьвіваецца і формуецца клясавая барацьба, траціць усякае

практычнае значэньне і ўсякае тэорэтычнае апраўданьне гэтае фантазійнае лётаньне над ёю і фантазійная барацьба з ёю, фантазійнае жаданьне перамагчы яе. Дзеля гэтага, калі тварцы гэтых сыстэм і былі ў шмат якіх адносінах рэволюцыянэрамі, то іх вучні заўсёды твораць рэакцыйныя сэкты. Яны ўпарта трымаюцца старых паглядаў сваіх настаўнікаў наперакор далейшаму гістарычнаму поступу пролетарыяту. Праз гэта яны зусім паступова, згодна з сваімі паглядамі, стараюцца прытупіць барацьбу кляс і злагодзіць супярэчнасьці. Яны ўсё яшчэ не перастаюць марыць пра зьдзейсьненьне сваіх соцыяльных утопій, пра заснаваньне паасобных фалянстэр, комуністычных, дамовых колёній*), або некай маленькай Ікарыі—кішэннага выданьня новага Ерузаліму, і для пабудаваньня ўсіх гэтых паветраных замкаў яны нязьменна зварачаюцца да дабрачыннасьці буржуазнага сэрца і грашовых мяшкоў. Такім парадкам, яны паволі пераходзілі ў рады вышэй абрысованых рэакцыйных ці консэрватыўных соцыялістых і розьняцца ад іх хіба толькі больш сыстэматычнымі забабонамі і фантастычнаю вераю ў цудоўную сілу свае соцыяльнае навукі.

Вось чаму яны з такою заўзятасьцю выступаюць проціў кожнага політычнага руху рабочых. Яны думаюць, што політычны рух рабочых залежыць ад таго, што рабочыя па сьлепаце сваёй ня вераць у новае эвангэльле.

Пасьледнікі Овэна ў Англіі змагаюцца з чартыстымі, а пасьледнікі Фур'ера ва Францыі—з рэформістымі.

IV.

## АДНОСІНЫ КОМУНІСТЫХ ДА РОЗНЫХ ОПОЗІЦЫЙНЫХ ПАРТЫЙ.

Пасьля таго, што гаварылася ў другім разьдзеле, само сабою становяцца зразумелымі адносіны комуністых да з'организованых ужо рабочых партый, а значыць, і адносіны іх да чартыстых у Англіі і да аграрных рэформістых у Паўночнай Амэрыцы.

Яны вядуць барацьбу за здабыцьцё найбліжэйшых, беспасярэдніх мэт і інтарэсаў рабочае клясы, але разам з тым у цяперашнім руху яны выяўляюць і будучыну гэтага руху. У Францыі яны прылучаюцца да соцыяль-дэмократычнае партыі**) проціў консэрвацыйнай і радыкальнай

*) Homo-colonies—(колоніі ў сярэдзіне краю) так называў Овэн свае ўзорныя комуністычныя гурткі. Фалянстэрамі называліся прыдуманыя Фур'е грамадзянскія палацы. Ікарыяй называлася утопічна-фантастычная краіна, комуністычны лад якой апісаў Кабе.

**) Партыя, што называлася тады ва Францыі соцыялістычна-дэмократычнай, прадстаўлялася ў політыцы Ледрю-Ролэнам, а ў літаратуры—Люі-Блянам; значыць, яна была далёка, як неба ад зямлі, ад цяперашняй нямецкай соцыяль-дэмократыі.



буржуазіі, не адмаўляючыся, аднак, ад свайго права крытычна ставіцца да фраз і ілюзіі, што выплываюць з рэволюцыйнай традыцыі.

У Швэйцарыі комуністыя падтрымліваюць радыкалаў, памятаючы, што гэтая партыя складаецца з супярэчных элемэнтаў, часткаю з дэмократычнах соцыялістых францускае школы, а часткаю з прадстаўнікоў радыкальнай буржуазіі.

У Польшчы яны падтрымліваюць тую партыю, якая аграрную рэволюцыю робіць умоваю нацыянальнага вызваленьня,—тую самую партыю, што выклікала кракаўскае паўстаньне 1846 г.

У Нямеччыне комуністычная партыя бароцца сумесна з буржуазіяй, калі буржуазія выступае рэволюцыйна проціў абсолютнай монархіі, фэўдальнага землеўладаньня і дробнага мяшчанства.

Ані на момант не забываюць комуністыя таго, што трэба выраблянць у рабочых як можна выразьнейшую сьвядомасьць варожай супярэчнасьці паміж буржуазіяй і пролетарыятам, каб нямецкія рабочыя маглі зараз-жа абярнуць, як зброю проціў буржуазіі, тыя грамадзянскія і політычныя ўмовы, што павіннна вытварыць буржуазія ў часе свайго панаваньня, каб зараз-жа, пасьля зьвяржэньня рэакцыйных кляс у Нямеччыне, пачалася барацьба з самой буржуазіяй.

Асаблівую ўвагу зварачаюць комуністыя на Нямеччыну, бо Нямеччына стаіць напярэдадні буржуазнай рэволюцыі. У Нямеччыне рэволюцыя гэта адбудзецца пры больш высокай ступені эўропэйскай цывілізацыі наогул і пры больш разьвіненым пролетарыяце, чым гэта было ў Англіі XVII-га і Францыі XVIII-га веку. Дзеля гэтага, нямецкая буржуазная рэволюцыя можа паслужыць толькі бурай, папераджаючай пролетарскую рэволюцыю.

Адным словам, комуністыя ўсюды падтрымліваюць кожны рэволюцыйны рух, накірованы проціў цяперашняга грамадзянскага і політычнага ладу.

Ва ўсіх гэтых рухах комуністыя ставяць на першае месца, як асноўнае пытаньне, пытаньне пра ўласнасьць, незалежна ад таго, ці набыла гэтая ўласнасьць больш ці менш разьвітую форму.

Нарэсьце, комуністыя скрозь працуюць над тым, каб устанавіць злучнасьць і паразуменьне дэмократычных партый усіх старон.

Комуністыя лічаць ганебным для сябе таіцца з сваімі паглядамі і намерамі. Яны адкрыта заяўляюць, што іхнія мэты будуць зьдзейсьнены толькі гвалтоўным зьвяржэньнем усяго цяперашняга грамадзянскага ладу. Няхай дрыжаць пануючыя клясы перад комуністычнай рэволюцыяй! Пролетарам няма чаго траціць у ёй, апрача сваіх кайданаў, а здабыць яны могуць цэлы сьвет.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Увагі да некаторых месц тэксту.

## 1. Марксізм і дарвінізм.

> Як Дарвін адкрыў закон разьвіцьця органічнае прыроды, так Маркс адкрыў закон разьвіцьця чалавечай гісторыі.
>
> *Энгэльс.*

**Біблія.*)** Без надужыцьця можна сказаць, што найбольшай ідэолёгічнай перашкодай для разьвіцьця навуковай мысьлі была біблія з яе навукай а пахаджэньні сьвету і чалавека.

Біблія навучае, што сьвет створан быў богам у шэсьць дзён. Да стварэньня сьвету ня было нічога—ні неба, ні зямлі, а быў хаос, і дух божы насіўся над хаосам. Сьвет быў створан богам ужо ў гатовым, закончаным відзе, якім мы яго бачым цяпер. Значыць, подлуг біблейскай навукі, *сьвет не разьвіваецца.*

У такім-жа асьвятленьні біблія выстаўляе і пахаджэньне чалавека. Усе людзі маюць аднаго супольнага продка, Адама. Першага чалавека бог стварыў з зямлі, і да Адама людзей ня было. Паміж чалавекам і жывёлай няма нічога супольнага. Кожная жывёліна была створана богам асобна.

Тут зноў адкідаецца ўсякая думка аб тым, што жывёлінны сьвет мог разьвівацца. Усе жывёлы былі ад пачатку створаны так, якімі мы бачым іх цяпер.

„Усё вечна на сьвеце, так было, так будзе“,—вот асноўная рыса біблійнай навукі.

Біблійная навука найбольш адпавядала фэўдальнаму ладу ў Эўропе, хоць перанесена была сюды з далёкай старасьветчыны адначасна з пашырэньнем хрысьціянства.

У фэўдальным грамадзянстве зносіны паміж людзьмі былі слаба разьвінены. Кожная старана, кожная краіна аддзялялася адна ад другое як-бы кітайскім мурам. Сфэра ўзаемных зносін людзей абмяжована, мае сваю граніцу. За мяжою гэтае граніцы ўжо „канец сьвету“.

Гэтыя прызвычаеныя адносіны паміж людзьмі былі вельмі моцныя і цьвёрдыя. Кожны селянін ведаў, што пэўная асоба зьяўляецца яго панам, катораму ён мусіць служыць дажывотна. Ён ведаў, што яго бацькі таксама служылі пану, і думаў, што яго патомства таксама будзе служыць сям'і гэтага пана. Зьмены ня можа быць, гэта ўжо богам прызначана, каб яго род быў хлопам, а род пана—панам.

---

*) Біблія—слова грэцкае; панашаму значыць—збор кніг. Яна дзеліцца на дзьве часьціны: 1) збор апавяданьняў старажытнага жыдоўства *(стары завет)* і 2) эвангэльле з дзеяньнямі апосталаў Ісуса *(новы завет).*



Спосаб продукцыі пры фэўдалізьме нярухлівы, а разам з тым, нярухлівы і адносіны паміж людзьмі.

Такія і „навуковыя“ пагляды: усё вечна, усё мае мяжу, граніцу. Адам становіць граніцу чалавецтва, да яго ня было людзей. Шэсьць дзён стварэньня сьвету зьяўляюцца граніцай сьвету.

Зусім адваротнае мы спасьцерагаем пры капіталізьме.

„Буржуазія ня можа існаваць, не выклікаючы бязупыннай зьмены ў прыладах, вытворчасьці, а, значыць, і зьмены ў продукцыйных адносінах і ва ўсіх наогул грамадзянскіх адносінах... Бязупынныя пераварoты ў продукцыі... вечны рух... адрозьніваюць буржуазную эпоху ад папярэдніх... Усе прывычныя (традыцыйныя) грамадзянскія адносіны з адпаведнымі ім паглядамі й паняцьцямі... руйнуюцца; усё станавае (прывычнае) і нярухлівае разбураецца і зьнікае, усё сьвятое апаганьваецца... Людзі прымушаюцца канец канцом глянуць цьвярозымі вачыма на свой жыцьцёвы стан і на свае ўзаемныя адносіны...

Даўнейшая нацыянальная замкнёнасьць, калі кожная краіна самаздавальняла ўсе свае патрэбы, уступае месца сусьветнай таргоўлі і ўзаемнай усябочнай залежнасьці ўсіх народаў“ *(Комуністычны Маніфэст, разьдзел 1-ы).*

Калі пры фэўдалізьме біблія была вышэйшай інстанцыяй для разьвязаньня розных навуковых спрэчак, калі пры фэўдалізьме навуковая думка была скута нярухлівасьцю, то пры капіталізьме наступае гэтаму канец. Сьвяшчэнное пісаньне, біблія перастае быць аўторытэтам. Навука з кожным разам усё больш праймаецца думкай пра бязупынны рух, пра разьвіцьцё. Месца веры пачало займаць бязьвер'е, месца бібліі—розум, месца рэлігіі і цэркві—політыка, месца неба—зямля, месца малітвы—праца, месца пекла—матэрыяльная патрэба, месца хрысьціяніна—чалавек.

**Першая прабоіна.** Першая прабоіна была зроблена ў біблійнай навуцы а пахаджэньні сьвету. На пярэдадні XIX-га сталецьця нямецкім філёзофам Кантам і французскім матэматыкам Ляплясам, незалежна адзін ад другога, была ўтворана так званая Канта-Ляплясаўская тэорыя.

У кароткіх рысах тэорыя гэтая палягае ў наступным:

Уся наша сонечная сыстэма была некалі аднэй масаю, на падабенства тае туманнасьці, якую мы спасьцерагаем у млечным шляху. З прычыны бесьперастаннага руху, туманнасьць гэта згусьцела і абярнулася ў агніста-плыўкую масу (сонца). Ад цэнтральнага (асяродкавага) ядра адрываліся часткі, якія, з прычыны сілы прыцяжэньня, пачалі круціца навокала яго. З другога боку, ад гэтага руху яны прынялі галавобразную форму. Агніста-плыўкія вадкаватыя масы паволі астывалі і пакрываліся цьвёрдаю карою, як скарынкаю (зямля і інш). Такім спосабам злажыліся і іншыя косьмічныя сыстэмы.

Гэтая тэорыя потым была даведзена і пацьверджана шляхам досьледу фізікам Плято.

Такім спосабам, раз назаўсёды была пахавана біблійная легэнда а стварэньні сьвету. Сьвет, як відаць, ня створан гатовым, а знаходзіцца ў вечных зьменах, у вечным руху: туманнасьці абарачаюцца ў сонца, сонца—у цьвёрдыя масы, а цьвёрдыя масы пры сутыканьні разьбіваюцца ад моцнага руху ды зноў абарачаюцца ў першасткoвыя часьціны і г. д.

Але тут вынікае пытаньне: адкуль-жа ўзялася туманнасьць? Што такое тая матэрыя, з якой складаецца туманнасьць?

Матэрыя, якую мы лічым *першапрычынай* усіх зьяўлень, ня можа быць вытлумачана якой-небудзь *другою прычынай*. Кожнае азначэньне зводзіцца да апісаньня аднаго паняцьця другім *больш шырокім*. Дык хіба можа быць паняцьце больш шырокае, як тое, якое мы разглядаем, як сродак, або выхадны пункт нашага пазнаньня? Пытаньне аб тым, адкуль узялося „ўсё“ на сьвеце, так-жа далёка знаходзіцца за межамі веды, як скажам, пытаньне аб тым, які політычны лад пануе на Марсе—Устаноўчы Сойм ці Рада Паслоў... *(„Дыялектычны матэрыялізм“, С. Вольфсон).*

**Другая прабоіна.** Бадай што адначасна пачынаюцца напады процiў другой біблійнай легэнды, процiў навукі аб Адаме. У марныя спрэчкі вучоных аб тым, ці паходзяць усе расы ад аднаго чалавека Адама, ці кожная раса мае свайго першага Адама, была кінута сьмелая думка, што першага Адама наогул ніколі ня было, што ўвесь жывёлінны сьвет становіць сабою адзін агульны ланцуг, у якім чалавек зьяўляецца толькі часткаю яго. Першага чалавека ніколі ня было, бо ніхто яго не стварыў. Чалавек зьяўляецца далейшым разьвіцьцём жывёліннага сьвету, яго працягам.

Гэтая сьмелая думка была кінута францускім вучоным Лямаркам. Адначасна Лямарк выказаў думку пра тое, што розьніца ўворганах разнастайных жывёлін паходзіць ад прыспасабленьня да розных акалічнасьцяў.

Але Лямарк ня мог падмацаваць досьледам гэтай мысьлі, і яна была адкінута сучасным яму консэрвацыйным вучоным сьветам. Запатрэбілася больш за паўвеку, каб у васнове сваёй гэтая думка, набыўшы цэлы стос фактычных даных, заваявала пануючае палажэньне ў навуцы. Гэта было зроблена ў 1859 годзе *Чарльзам Дарвінам.*

**Прыродна-навуковы базіс дыялектычнага матэрыялізму.** Першая палавіна XIX-га сталецьця вызначаецца цэлым радам пераваротаў у прыродазнаўчых навуках, пацьвердзіўшых наступную асноўную думку. *Уся прырода знаходзіцца ў непарыўным разьвіцьці. Уся прырода адзіна*, бо адно зьяўленьне пераходзіць у другое. У васаблівасьці пацьвярджаюць гэтую мысьль адкрыцьце каморкі жывого цела і закон супольнасьці ўсіх відаў энэргіі.

Вось што піша пра гэта Энгэльс: „Калі-б Гегелю давялося пісаць філёзофію прыроды цяпер, то факты самі-б паляцелі да яго з усіх бакоў... Самае важнае, дзякуючы чаму адбыўся гэты пераварот...—гэта адкрыцьце каморкі. Усё складаецца з каморак. Каморка... у сваім разьвіцьці і праходзіць гегельянскі *(дыялектычны Я. Л.)* процэс, покі з яе не разаўецца... закончаны організм“.

„Другі рэзультат... гэта закон, што... мэханічны рух абарачаецца ў цяплыню, цяплыня—у сьвет, сьвет—у хімічную зроднасьць, хімічная зроднасьць—у электрычнасьць, гэтае апошняе—у магнэтызм“.

„...На кожным кроку носам натыкаешся на дакладнейшае супаданьне пабудовы чалавека з пабудовай рэшты сасуноў, а ў асноўных рысах гэтае супаданьне ёсьць ва ўсіх хрыбетных і нават крыху менш выразна можна прасьледзіць у казюлек і чарвей“. (*Ліст Энгэльса да Маркса 14-га ліпеня 1858 г.*)

Энгэльс дзівіцца ў гэтым лісьце прарочай інтуіцыі Гегеля, але ён ні ў воднай з сваіх пазьнейшых прац не гаворыць, што сам ён за год да зьяўленьня першай кніжкі Дарвіна (1859 г.) ужо вызначыў асноўныя рысы *дарвінізму*.



**Дарвін.** У 1859 г. зьявілася першая кніжка Дарвіна „А пахаджэньні відаў“. У тым-жа годзе выйшла кніга Маркса „Да крытыкі політычнае экономіі“, у якой ужо зьмяшчаюцца асновы гістарычнага, або дыялектычнага матэрыялізму. Ужо адна гэтая акалічнасьць сьведчыць пра тое, што марксізм і дарвінізм—навукі блізкія, родныя паміж сабою.

Што-ж такое дарвінізм? З чаго складаецца, або ў чым палягае навука Дарвіна? У істоце рэчы Дарвін толькі выразьней формуляваў і пацьвердзіў цэлым радам довадаў тыя агульныя палажэньні, якія былі выказаны ў навуцы і раней, толькі ў нявыразнай форме. Гэтая акалічнасьць ні ў якім разе не памяншае вялікага значэньня Дарвіна. У тым і заслуга выдатных розумам людзей, гэніяў, што яны ўмеюць нявыразнае зрабіць выразным, а прамудрае і малазразумелае абярнуць у простае, для ўсіх зразумелае.

Перадамо асноўныя палажэньні навукі Дарвіна ў выкладзе Энгэльса („Анты-Дзюрынг“).

„Віды жывёлін і расьлін“ не пастаянныя, а зьменныя;—адгэтуль вынікае „магчымасьць існаваньня супольных продкаў для організмаў з рознымі органамі“. Уся прырода, такім парадкам, адзіна.

Але калі існуе первястковая форма для ўсяе органічнае прыроды, то чым-жа, аднак, тлумачыцца тое, што цяпер існуюць розныя жывёліны, чым абумоўліваецца зьмена жывёлін і расьлін?

Дарвін і дае адказ якраз на гэтае пытаньне. „Дзеля таго, што кожная завязь імкнецца да разьвіцьця, то няўнікнёна паўстае барацьба за існаваньне... У гэтай барацьбе тыя істоты *маюць* найбольш посьпеху вы жыць, што ўладаюць якой-небудзь уласьцівай ёй асаблівасьцю...“ „Істоты, ня маючыя гэтай асаблівасьці, лягчэй гінуць, чым больш прыспасобленыя...“

Калі, скажам, на поўначы жывуць вядзьмедзі, то захаваюцца толькі тыя, што ўладаюць „уласьцівай ім асаблівасьцю,“ белай поўсьцю, якая зьяўляецца для іх абаронным колерам. Рэшта гіне. Дзеля таго, што гэтая „уласьцівая асаблівасьць мае тэндэнцыю перадавацца па насьледзьдзю,“ то з часам вытвараецца новы від, новая парода—белыя вядзьмедзі.

Такім парадкам адбываецца зьмена віду шляхам прыроднага адбору, г. значыць „выжываньне найбольш прыспасобленых“.

Прыспасабленьне да акалічнасьці—вот рухоўнік разьвіцьця органічнага сьвету.

І перад Дарвінам ведалі ўжо, што прырода разьвіваецца. Яго заслуга палягае ў тым, што ён знайшоў *закон* гэтага разьвіцьця. Таксама і да Маркса ведалі, што людзкое жыцьцё—не пастаяннае, а разьвіваецца. Заслуга Маркса складаецца з таго, што ён вынайшаў *закон* разьвіцьця грамадзянскіх сіл.

Тэорыя Канта-Ляпляса аб'сьняе законы пахаджэньня і разьвіцьця сьветаў.

Тэорыя Дарвіна дае законы разьвіцьця органічнае прыроды.

Тэорыя гістарычнага (дыялектычнага) матэрыялізму (Маркс-Энгэльс) дае законы разьвіцьця чалавечага грамадзянства.

**Прыродная тэхнолёгія.** Тэорыя Дарвіна, як і кожная тэорыя сама па сабе, зьяўляецца даволі складанай. Справа ісьцінага мысьленьніка—умець знайсьці фокус, пункт пэракрыжаваньня ўсіх тых мысьляй, якія вы-

казуюцца ў данай тэорыі. Справа ісьцінага мысьленьніка—умець адным выразам, аднэй фразай ахарактарызаваць яе, намацаць яе цэнтральны нэрв.

Маркс гэтак і падышоў к дарвінізму. Маркс кажа: „Дарвін накіраваў увагу на *гісторыю прыроднай тэхнолёгіі*, г. значыць, на вытварэньне расьлінных і жывёлінных органаў, якія граюць ролю прылад продукцыі ў жыцьці расьлін і жывёлін“ (Капітал, т. I, увага 96).

Такім парадкам, усё значэньне палягае ў тым, што такое органы і ў чым заключаецца іх роля для расьлін і жывёлін. Органы—гэта „прылады продукцыі“ для жывёліны. Кожны орган выпаўняе пэўную работу, пэўную функцыю. А ў такім разе ясна, што органы зьяўляюцца тады, калі зьмены ў акалічнасьцях выклікаюць канечную патрэбу ў новай прыладзе продукцыі. Тады шляхам прыспасабленьня й насьледаваньня вынікае новы від жывёлін. Наадварот, органы адміраюць (атрофіруюцца), калі яны перастаюць выпаўняць пэўную функцыю (напрыклад, сьляпая кішка ў чалавека).

А калі гэта так, калі мы дасьледуем гісторыю прыроднай тэхнолёгіі, калі мы дасьледуем, як і якім спосабам зьмяняюцца прыродныя прылады вытворчасьці (продукцыі), калі ў гэтых зьменах палягае істота разьвіцьця органічнага сьвету,—то чаму нам не дасьледзіць гісторыі штучнай тэхнолёгіі? Ці ня можна сказаць, што ў зьменах прылад продукцыі заключаецца істотнасьць разьвіцьця чалавецтва?

„Ці не заслугуе“, пытаецца Маркс, „такой самай увагі гісторыя вытварэньня продукцыйных органаў грамадзянскага чалавека, гісторыя гэтага матэрыяльнага базісу кожнай асобнай грамадзянскай організацыі?“ (Капітал, там сама).

Але Маркс ня толькі ставіць такое пытаньне, ня толькі кіруе ў гэты бок увагу, ён дае на гэтае пытаньне поўны, найдакладнейшы адказ.

**Жывёліна, вырабляючая прыладу.** Чалавек тым розьніцца ад звычайнай жывёліны, што ён у сваёй барацьбе за йснаваньне не зьмяняе сваіх прыродных органаў; чалавек не рабіў вастрэйшым сваё вока, слух яго ня стаў больш чуткім, мускулятура яго ня стала пружэйшай. Наадварот, першабытны дзікун у гэтым кірунку быў далёка спрытнейшы за сучаснага чалавека. Затое чалавек *штучна*, пры дапамозе лупы, мікроскопа, тэлескопа і г. д. павялічыў у некалькі тысяч раз сілу свайго зроку; *штучна*, пры дапамозе падважніка, падымнага крана і г. д. падымае тысячы пудоў.

Чалавек—жывёліна, вырабляючая прыладу. Гэта яго ўласьцівая рыса, якая адрозьнівае яго ад жывёліны. Тут ляжыць граніца, мяжа паміж зоолёгіяй і соцыолёгіяй.

У той дзень, калі чалавек першы раз узяў палку і гэтым як-бы падоўжыў сваю руку,—у той дзень ён перастаў быць жывёлінай, адлучыўся ад жывёліннага сьвету і пачаў будаваць сваю ўласную гісторыю. „Прадмет... становіцца органам яго чыннасьці, органам, які ён далучае да свайго цела, *падаўжаючы, такім спосабам, наперакор біблії прыродную велічыню апошняга*“ (Капітал, т. I).

„У прыладах працы чалавек набывае як-бы новыя органы, што зьмяняюць яго анатомічную пабудову. З таго часу, як ён паднёсься да ўжываньня гэтых прылад, ён прыдае зусім новы від гісторыі свайго разьвіцьця. Раней... яна зводзілася да ператварэньня яго прыродных органаў, цяпер яна становіцца перш за ўсё *гісторыяй палепшаньня яго штучных органаў... продукцыйных сіл*“. (Плеханаў).



Палепшаньне штучных органаў, рост продукцыйных сіл зьяўляецца, такім спосабам, нутральною прычынай тых зьмен, якія адбываюцца ў чалавечым жыцьці. Продукцыйныя сілы і становяць дзеля гэтага выхадны пункт соцыолёгічнага аналізу.

**Зоолёгія і соцыолёгія.** Покі чалавек ня стаў яшчэ жывёлінай, вырабляючай прылады, ён нічым ня розьніўся ад іншага зоолёгічнага сьвету. Тыя законы, якім падлягае ўвесь зоолёгічны сьвет, кіравалі таксама і чалавекам. Але як толькі чалавек становіцца жывёлінай, вырабляючай прылады, ён адлучаецца ад усяго зоолёгічнага сьвету. Законы, вынайдзеныя Дарвінам, ужо ня могуць мець уплыву на чалавека. Тут ужо маюць уплыў законы, вынайдзеныя Маркс-Энгельсам.

Навука Дарвіна і Маркса дапаўняюць, такім парадкам, адна другую. Хоць яны датыкаюцца дзьвюх розных навуковых сыстэм, аднак розьніца гэта выражаецца не ў мэтодзе досьледу, а толькі ў тым, што яны абнімаюць розныя часы аднаго і таго самага зьяўленьня. Дарвін дасьледуе зоолёгічны пэрыод, а Маркс—соцыолёгічны: „Дарвінам канчаецца зоолёгія, а Марксам пачынаецца соцыолёгія“ (Плеханаў).

Карэнная розьніца паміж зоолёгічным пэрыодам чалавека і соцыолёгічным заключаецца ў наступным.

Жывёліны разьвіваюцца шляхам зьмены сваіх органаў і прыспасабленьня свайго організму да акалічнасьці, а чалавек, наадварот, сам зьмяняе акалічнасьці, прыспасабляе іх да сябе. У жывёлін залежнае (пасыўнае) прыспасабленьне, а ў чалавека—дзейнае (актыўнае), дзеля гэтага, *людзі твораць сваю гісторыю*.

„Тэхнолёгія раскрывае *дзейныя* адносіны чалавека да прыроды, беспасярэдні процэс продукцыі яго жыцьця“. (Капітал, I).

**Заключэньне.** Трэба мець на ўвазе, што калі гаворыцца пра Маркса й Дарвіна, то гэтым падчырківаецца толькі характар падабенства (аналёгічнасьці) гэтых навук, але ня іх падпарадкаваньне. Мы кажам—аналёгічна, бо падобна да таго, як Дарвін вынайшоў закон разьвіцьця органічнай прыроды, або законы гісторыі прыроднай тэхнолёгіі,—падобна да гэтага Маркс вынайшоў законы разьвіцьця чалавечага грамадзянства, або законы разьвіцьця штучнай тэхнолёгіі. Але гэта ня значыць, што законы *тыя самыя*, што гісторыя чалавецтва зьяўляецца толькі часьцінным выпадкам агульнай біолёгіі.

Справа ў тым, што буржуазныя вучоныя якраз і дамагаюцца злучыць законы Дарвіна з законамі Маркса. Яны кажуць: законы экономікі—справа другазначная; самае важнае ў чалавечай гісторыі—гэта тое, што чалавек, як жывёліна, як біолёгічны від (homo sapiens) разьвіваецца. Такім тлумачэньнем прытупляецца ўвесь рэволюцыйны зьмест тэорыі Маркса. Іншыя, ідучы гэтай сьцежкай, даходзяць да чыстага ідэалізму, да тлумачэньня гісторыі разьвіцьцём розуму. Яны даводзяць, што чалавек як жывёліна, разьвіваецца; разьвіваюцца ўсе яго органы, а ў тым ліку і мазгі, розум; стала быць, разьвіцьцё розуму ёсьць рухоўнік чалавечай гісторыі.

Тэорэтыкі марксізму адкідаюць такое „прыродна-навуковае“ разуменьне гісторыі, як ненавуковае і служачае для апраўданьня і падтрыманьня буржуазнага ладу ў грамадзянстве.

У буржуазнай літаратуры дарвінізм тлумачыцца яшчэ наступным спосабам. Подлуг законаў Дарвіна, жыцьцё ёсьць барацьба за існаваньне. Кволыя гінуць, а дужыя выжываюць. У гэтым і палягае „прогрэс“, поступ наперад, або палепшаньне. Значыць, заключаюць гэтыя мудрыя буржуі, тое, што іншыя жывуць на кошт другіх (буржуазія—працай рабочых), зусім прыродна і ў гэтым нічога ганебнага няма. Гэта—„права“ дужага, якое служыць „прогрэсу“...

На основе гэтага буржуазія выстаўляе сябе перад рабочай клясай нейкай асобнай „панскай, шляхетнай“ расай, гэтак, як некалі фэўдальнае шляхецтва пышылася перад буржуазіяй сваім панскім, высокім пахаджэньнем, „белай косткай“.

Дзеля гэтага трэба памятаць:

1) Гісторыя заключаецца толькі ў разьвіцьці продукцыйных сіл. Ніякага, незалежнага ад гэтага, разьвіцьця чалавека, як жывёліны, няма. Чалавек, праўда, зьмяняецца, але толькі дзякуючы зьмене продукцыйных сіл. Чалавечы організм зьмяняецца *ў залежнасьці ад формаў працы*, так што ў апошнім падрахунку ўсё вызначаецца экономічнымі ўмовамі.

2) Прыспасабленьне чалавека, гэта значыць, рост яго продукцыйных сіл, адбываецца не асабістым, а грамадзянскім парадкам. Не асобны чалавек паляпшае тэхніку і карыстае з палепшанай тэхнікі, а ўсё грамадзянства. У Маркса чытаем: „продукцыйныя органы *грамадзянскага* чалавека“. Разьвіцьцё тэхнікі выдзяляе дзеля гэтага не асобнага чалавека, а рашчапляе ўсё чалавецтва на клясы, якія займаюць розныя месцы ў процэсе грамадзянскай продукцыі. Зразумела, што тут пра „кволых“ і „дужых“ гутаркі быць ня можа. Справа йдзе пра *клясавую барацьбу*.

Так, дзеля сваіх клясавых інтарэсаў, перакручвае буржуазія вялікія дасягненьні навукі.

## 2. Што такое навуковы соцыялізм.

На гэтае пытаньне расійскі тэорэтык марксізму Плеханаў дае такі адказ:

„Пад гэтым найменьнем мы разумеем тую комуністычную навуку, якая пачала выпрацовывацца ў пачатку 40-х гадоў прошлага сталецьця з утопічнага соцыялізму пад сільным уплывам гегелеўскай філёзофіі, з аднаго боку, і клясычнай экономіі—з другога; тую навуку, якая першы раз дала рэальнае аб'ясьненьне ўсяму ходу разьвіцьця чалавечае культуры, якая безашчадна разбурыла софізмы тэорэтыкаў буржуазіі ды, „узброеная ведай свайго веку“, выступіла на абарону пролетарыяту. Гэтая навука з поўнай яснасьцю паказала ўсю навуковую недакладнасьць супраціўнікаў соцыялізму, але, адзначаючы іх памылкі, яна разам з тым давала ім гістарычнае аб'ясьненьне і, такім спосабам, як сказаў некалі Гайм а філёзофіі Гегеля, „прывязала да свае трыумфальнай калясьніцы кожнае пераможанае ім зданьне“.

Як Дарвін узбагаціў біолёгію надзіва простай і разам з тым сьціслай навуковай тэорыяй пахаджэньня відаў, так і аснавальнікі навуковага соцыялізму паказалі нам у разьвіцьці продукцыйных сіл і ў барацьбе гэтых сіл з адсталымі грамадзянскімі ўмовамі продукцыі вялікі прынцып зьмены *відаў грамадзянскай організацыі*“.

Але не як бляер, не як „аканчальную ісьціну ў апошняй дыстанцыі“ раіў Плеханаў сыстэму навуковага соцыялізму рэволюцыянэрам.



„Само сабою разумеецца“, пісаў ён, „што разьвіцьцё навуковага соцыялізму яшчэ не закончана і так сама ня можа спыніцца на працах Маркса й Энгэльса, як тэорыя пахаджэньня відаў не магла лічыцца аканчальна апрацованай з выйсьцем у сьвет галоўных твораў“ ангельскага біолёга (Дарвіна). Пасьля ўстанаўленьня асноўных палажэнь новае навукі павінна пайсьці дэтальная апрацоўка, дапаўняючая і разьвязуючая пераварот, зроблены ў навуцы аўторамі „Комуністычнага Маніфэсту“. Няма ніводнае галіны соцыолёгіі, якая не набыла-б і надзвычайна шырокага поля зроку, прымаючы іх філёзофска-гістарычныя пагляды. Карысны ўплыў гэтых паглядаў і цяпер ужо пачынае выяўляцца ў дзядзіне гісторыі права і так званай „первястковай культуры“.

Плеханаў лічыць патрэбным падкрэсьліць і наступную асаблівасьць навуковага соцыялізму: „Вядучы свой пачатак, паміж іншым, ад Канта й Гегеля, навуковы соцыялізм зьяўляецца, аднак, самым сьмяртэльным і станоўчым ворагам ідэалізму. Ён выганяе ідэалізм з самага апошняга прытулку—соцыолёгіі, дзе прымалі яго з такою зычлівасьцяй позытывістыя. Навуковы соцыялізм грунтуецца на матэрыялістычным разуменьні гісторыі, г. значыць, што навуковы соцыялізм аб'ясьняе духоўную гісторыю чалавецтва разьвіцьцём яго грамадзянскіх адносін (паміж іншым, пад уплывам абкружаючай прыроды)“.

Аснавальнікі навуковага соцыялізму, кажа Плеханаў, прызнавалі адзінства, але ня тожсамасьць мысьленьня і быцьця. Далей, Маркс кажа: „Дзеючы на прыроду і зьмяняючы яе, чалавек разам з тым зьмяняе і сваю ўласную прыроду“. Мысьленьне абумоўліваецца быцьцём, а не быцьцё мысьленьнем. Быцьцё абумоўліваецца самым сабою... мае сваю аснову ў самым сабе. Не сьвядомасьць людзей абумоўлівае іх быцьцё, а, наадварот, іх грамадзянскае быцьцё вызначае іх сьвядомасьць.

Гэты погляд паложан Марксам у васнову *матэрыялістычнага разуменьня гісторыі*.

## 3. Продукцыйныя сілы.

Гістарычны матэрыялізм разглядае ўсю грамадзянскую організацыю, як організацыю *продукцыйную*. Продукцыя—асноўны шпень, навокала якога круцяцца політычныя падзеі і разумовыя (інтэлектуальныя) зьяўленьні эпохі.

Продукцыяй называецца выраб дабра, патрэбнага для жыцьця чалавека, а продукцыйнымі сіламі—усё тое, пры дапамозе чаго выраблявецца гэтае дабро. Сродкі продукцыі і рабочыя, узятыя разам, і складаюць тое, што называецца *матэрыяльнымі продукцыйнымі сіламі грамадзянства*.

Пад продукцыйнасьцю працы трэба разумець адносіны паміж колькасьцю здабытага продукту і колькасьцю патрачанай працы; іначай кажучы, *продукцыйнасьць працы ёсьць колькасьць продукту на якую-небудзь адзінку рабочага часу*, напрыклад, колькасьць продукту, што выраблявецца за дзень, за час або за год. Калі колькасьць продукту, выробленага за час работы, павялічаецца ўдвая, то кажуць, што продукцыйнасьць працы ўдвая павялічылася; калі яна памяншаецца ўдвая, то кажуць, што продукцыйнасьць грамадзянскай працы ўдвая панізілася, зьменшылася. (Н. Бухарын. Тэорыя гістарычнага матэрыялізму).

Кожная жывая істота можа жыць, толькі прыспасабляючыся да прыроды. Чалавек таксама падлягае гэтаму закону. Але процэс прыспасаб-

леньня ў чалавека адбываецца зусім іначай, як у іншых жывёлін. Калі кожная жывёліна прыспасабляецца да прыроды тым, што *паддаецца* ёй, то чалавек дасягае тэй-жа мэты тым, што *падбівае* прыроду сабе; ён не зьмяняе дзеля гэтага сваіх *прыродных* органаў, а, наадварот, выврабляе тыя ці іншыя *штучныя* органы,—адным словам, прыспасабленьне чалавека *не пасыўнае і фізіолёгічнае*, як у кожнай жывёліны, але *актыўнае (дзейнае) і тэхнічнае.*

Тая асаблівасьць, што прыспасабленьне чалавека да прыроды адбываецца дзейным і тэхнічным шляхам, што чалавек зьяўляецца, як кажа Франклін, „жывёлінай, вырабляючай прылады“, мае агромністае, выключнае па сваёй важнасьці, значэньне.

Працоўны процэс, што зьдзейсьніваецца пры дапамозе штучных прылад (органаў), зьвіўся асноўным фактарам, пад беспасярэднім уплывам якога разьвіўся наш інтэлект. У гэтым процэсе нечленападзельныя гукі жывёлы абярнуліся ў магутную прыгожую чалавечую мову. У гэтым процэсе чалавек набыў здольнасьць разважаньня, выпрацаваў сьвядомыя адносіны да акаляючага яго сьвету. „Павук робіць опэрацыі, сходныя з дзеяньнямі ткача, а пчала можа асароміць пабудовай сваіх вашчын кожнага архітэктора. Але ёсьць нешта такое, што з самага пачатку адрозьнівае самага благога архітэктора ад самай лепшай пчалы: чалавек, перш, чым вылепіць каморку з воску, ужо пабудаваў яе ў галаве“ (*Маркс*). Гэта вялікая *здольнасьць уяўленьня* зьявілася вынікам ужываньня штучных прылад, дзейнічаньня з іх дапамогаю на мёртвую прыроду, ператварэньня матэрыі.

„У прыладах працы чалавек набывае як-бы новыя органы, зьмяняючыя яго анатомічную пабудову. З таго часу, як ён паднёсься да іх ужываньня, ён прыдае зусім новы від гісторыі свайго разьвіцьця; раней гісторыя разьвіцьця, як у іншых жывёлін, палягала ў відазьмене яго прыродных органаў; цяпёр яна становіцца перш за ўсё *гісторыяй палепшаньня (дасканаласьці) яго штучных* органаў, росту яго продукцыйных сіл“. (Н. Бельтаў-Плеханаў).

Покі прылады працы ня мелі ў жыцьці чалавека пануючага значэньня, датуль ня было яшчэ і чалавечай гісторыі. Чалавечая гісторыя пачынаецца з таго моманту, калі гэтыя прылады пачынаюць уплываць на ўвесь уклад чалавечага жыцьця. Тут канчаецца Дарвін і пачынаецца Маркс. Зоолёгія саступае месца соцыолёгіі.

„Гісторыя“, кажа А. Лябрыоля, „ёсьць справа рук чалавека, паколькі апошні можа вынайходзіць і паляпшаць свае прылады працы, а потым, з дапамогаю гэтых прылад, вытвараць тую штучную глебу, складаны ўплыў якой адбіваецца потым на ім самым і якая зьяўляецца, дзякуючы свайму цяперашняму стану і сваім паступовым зьменам, прычынай і ўмовай яго разьвіцьця“.

Франклін называў чалавека жывёлінай, вырабляючай прылады. Амэрыканскі мысьленьнік забыўся падчыркнуць, што чалавек—*грамадзкая жывёліна*, вырабляючая прылады. Першы каменны тапор ужываўся не Робінзонам Крузо, а членам чалавечага стада—жывёлай грамадзкай. Гэты тапор стаў прыналежнасьцяй не *адзінкі*, а *масы*, яго ўжываньне выразна зьмяніла абліччa гэтай масы, стварыла для яе новыя ўзаемаадносіны з прыродай, а кожны пераход ад тапара да новых прылад, кожны



крок па дарозе разьвіцьця продукцыйных сіл зьмяняў і ўсю пабудову грамадзянскай організацыі, рэволюцыянізаваў усе тыя адносіны, якія складаліся ў сярэдзіне гэтае організацыі.

Зьмяняючы прыроду, чалавек на працязе ўсёй чалавечай гісторыі, зьмяняў самога сябе.

Грамадзкае карыстаньне прыладамі продукцыі вытварае навокала чалавека, поплеч з *прыроднымі* абставінамі, і *штучныя*, поплеч з *прыроднымі*—і *соцыяльныя*.

Грамадзкае карыстаньне прыладамі продукцыі ўласьціва выключна чалавеку, і толькі гэтая акалічнасьць так павялічае захавальную і ізолюючую сілу штучных абставін, якія паднесьлі чалавека вышэй ад усіх жывых істот. Тым, што чалавек прыспасабляецца да прыроды не *біолёгічна*, а *тэхнічна*, што ён не зьмяняе ў процэсе прыспасабленьня свайго організму, а дасканаліць прылады працы, ён абавязан гэтай ізолюючай сіле штучных абставін.

Зьмена прылад продукцыі, адпаведна зьмяняючая адносіны чалавека да прыроды, а таксама адносіны чалавека аднаго да другога, вызначае сабою ўвесь ход грамадзянскага разьвіцьця. Вось чаму пры *разглядзе жыцьця грамадзянства і пры дасьледаваньні грамадзянскіх падзей марксізм выходзіць з аналізу іх продукцыйных сіл*. „Пэўныя грамадзянскія адносіны“, кажа Маркс, „зьяўляюцца таксама продуктам людзей, як палатно, лён і іншае. Грамадзянскія адносіны самым цесным спосабам зьвязаны з станам продукцыйных сіл. Набываючы новыя продукцыйныя сілы, людзі зьмяняюць свае спосабы продукцыі, а зьмяняючы спосабы продукцыі, спосабы дабываньня сродкаў для жыцьця,—яны зьмяняюць усе свае грамадзянскія адносіны. Ручны млін дае вам грамадзянства з сюзерэнам на чале, паравы-ж млін—грамадзянства з прамысловым капіталістым. Але тыя-ж самыя людзі, каторыя ўстанаўляюць свае грамадзянскія адносіны адпаведна матэрыяльнай продукцыі, вытвараюць таксама прынцыпы, ідэі, катэгорыі адпаведна з сваімі грамадзянскімі адносінамі“.

Гістарычны, або дыялектычны матэрыялізм лічыць продукцыйныя сілы выходным пунктам пры дасьледаваньні жыцьця грамадзкага чалавека з тае простае прычыны, што яны становяць сабою *адзіны зьменны* матэрыяльны фактар, абумоўліваючы сабою разьвіцьцё грамадзянскага жыцьця, дзеля таго, што спосаб продукцыі, бязупынна зьмяняючыся сам, разам з тым зьмяняе і грамадзкага чалавека. Продукцыйныя сілы прызнаюцца за канечную рухоўную прычыну гістарычнага процэсу, бо гэта *адзіны зьменны* элемэнт у вакаляючай чалавека і на яго дзейніючай сфэры. Усе іншыя элемэнты гэтае сфэры або нязьменны або зьмяняюцца пад уплывам разьвіцьця продукцыйных сіл.

Само сабою разумеецца, што ў процэсе выпрацоўкі ідэй грае ролю ня толькі знадворны сьвет, але й чалавечы організм. Але хіба-ж чалавечы організм, яго здольнасьць да мысьленьня, да мастацкай творчасьці і г. далей хоць крыху прыметна зьмяніліся на працязе гісторыі? Разумеецца не. Мысьленая здольнасьць якога-небудзь Арыстотэля бадай што нікім не перавышана, таксама мастацкія здольнасьці старажытных грэкаў,—а з другога боку, што-ж зьмянілася ў знадворным сьвеце? Прырода? Дык не: над Грэцыяй і цяпер тое самае блакітнае неба, якое было і ў эпоху Перыкла. Зьмянілася толькі *грамадзянства*, г. значыць,

у апошнім падліку *эканомічныя адносіны* і, калі ў прыродзе і ў людзях адбываліся зьмены, то адбываліся пад уплывам зьмен у экономічных зносінах. (К. Каўцкі).

Становячы продукцыйныя сілы выходным пунктам для свайго соцыолёгічнага аналізу, марксізм паказвае, што грамадзянства зьмяняецца ў залежнасьці ад таго, *якім спосабам* яно здавальняе свае матэрыяльныя патрэбы.

Матэрыялістычнае разуменьне гісторыі выходзіць з таго палажэньня, што продукцыя, а поплеч з гэтым і памен продуктаў, складае аснову кожнага грамадзянскага ладу, што ў кожнай гістарычнай форме грамадзянскага жыцьця падзел продуктаў, а разам з ім і соцыяльны падзел, пачленаваньне на клясы, або станы, адбываецца адпаведна таму, *што* і *як* продуктуецца і як тое, што вытвараецца, падзяляецца, паменьваецца. Дзеля гэтага, асноўныя прычыны ўсіх грамадзянскіх зьмен і політычных пераваротаў *трэба шукаць не ў галовах людзей і ня ў іх гістарычна зьмененым разуменьні адвечнай праўды й справядлівасьці,* але ў зьмене способу продукцыі і памену. Іх трэба шукаць не ў філёзофіі, а ў экономіцы кожнай данай эпохі. (Энгэльс, Анты-Дзюрынг).

Экономія-ж кожнай эпохі знаходзіцца ў беспасярэдняй залежнасьці ад яе продукцыйных сіл.

Не падлягае, разумеецца, сумненьню, што географічныя свойствы абумоўліваюць разьвіцьцё продукцыйных сіл. Уплыў географічных абставін на тэхніку—відавочны. Але трэба памятаць, што, вынікнуўшы пад уплывам прыродных (географічных) абставін, продукцыйныя сілы ў далейшым зьмяняюць адносіны чалавека да гэтай самай прыроды. Вот у нас, на Беларусі, гаворань цяпер аб электрыфікацыі, закладаюць балотныя станцыі і г. д.,—гэтым самым мы становімся адносна географічных абставін нашага краю ў зусім іншае палажэньне, чымсі тое, у якім былі насельнікі Беларусі, прыкладам кажучы, у часе Ўсяслава Полацкага або пры Зыгмундзе-Аўгусьце. Зямля, якую выраблююць электрычным трактарам, фэрмар якога-небудзь паўночна-амэрыканскага штату—гэта ўжо ня тая зямля, якую два векі назад поркала ў тым-жа месцы прымітыўная саха селяніна-асадніка. (С. Вольфсон „Дыалект. матэрыялізм“).

Чалавечае грамадзянства працуе ў прыродзе і над прыродай, як над прадметам свае працы. Гэта не падлягае ніякаму сумненьню. Але тыя элемэнты, што маюцца самі па сабе ў прыродзе, знаходзяцца ў больш-менш нязьменным стане. Дзеля гэтага яны *ня могуць аб'ясьніць зьмен.* Зьмяняецца-ж грамадзянская *тэхніка,* якая, разумеецца, прыспасабляецца да таго, што *ёсьць* у прыродзе... Раз зьменнай велічынёй зьяўляецца тэхніка, і ўласна гэты рух тэхнікі і выклікае зьмены адносін паміж грамадзянствам і прыродай, то ясна, што тут і павінен ляжаць выходны пункт аналізу грамадзянскіх адносін. (Н. Бухарын, Тэорыя гістарычнага матэрыялізму).

Дзеля таго, каб правільна падрахаваць уплыў географічных абставін на гістарычны процэс, трэба дасьледзіць, як гэты ўплыў адбіваецца на *соцыяльнай* організацыі. Калі-ж гэты ўплыў разглядаць з боку *фізіолёгічнай* або *псіхічнай* організацыі данага народу, то такі прыём роўна нічога, апроч скажэньня сапраўднай пэрспэктывы гістарычнага процэсу, даць ня можа. Думаць, што роля географічных умоў, у якія мы пастаўлены, зводзіцца да таго, што яны абумоўліваюць фізычнае і духоўнае аблічча пэўнага пляменьня, значыць прыпускаць, што ключ к дасьледаваньню



гісторыі ляжыць у „свойствах расы“. Такі пагляд безашчадна разбуран навукай. Сучасная навука не прызнае ў цяперашнім грамадзянстве існаваньня якіх-небудзь „чыстых“ рас. Калі ў часе ўсяе чалавечай гісторыі, як галоўным дзейнікам культуры, высуваецца па чарзе то тая, то другая раса, то кожны чалавек, маючы розум, каб мысьліць, зразумее, што прычына гэтага ня ў тых ці іншых „свойствах расы“, а ў тым разьвіцьці продукцыйных сіл, якія вызначаюць сабою культурную ступень „нацыі“, „расы“ ў кожную даную эпоху.

Людзі жывуць продуктуючы. Грамадзянства—гэта ні што іншае, як продукцыйная суполка, зьвязваючая паміж сабою людзей ніткамі нязьлічоных узаемных адносін, у якія яны становяцца пры продуктаваньні й памене выробленага, выпродуктованага. Маркс называе гэтыя ўзаемаадносіны *продукцыйнымі адносінамі.* Характар продукцыйных адносін абумоўлен тымі продукцыйнымі сіламі, якія знаходзяцца ў распараджэньні грамадзянства ў даны момант. Кожная зьмена ў стане продукцыйных сіл выклікае за сабою зьмену ў продукцыйных узаемаадносінах, значыць, зьмяняе ўвесь грамадзянскі лад і зьвязаную з ім грамадзянскую ідэолёгію.

## 4. Гістарычны матэрыялізм.

Тэорыя гістарычнага матэрыялізму, або матэрыялістычнае разуменьне гісторыі ў асноўных палажэньнях выпрацавана Марксам і Энгэльсам. Іначай яна называецца матэрыялістычнай мэтодай гісторыі. Гэта гэніяльнейшая теорыя зьяўляецца самым вострым прыладзьдзем чалавечай мысьлі й пазнаньня. Пры яе дапамозе пролетарыят разьбіраецца ў самых заблутаных пытаньнях грамадзянскага жыцьця і клясавай барацьбы.

Да адкрыцьця матэрыялістычнага разуменьня гісторыі ўсе падзеі грамадзянскага жыцьця гістарычная навука разглядала праз ідэялістычную прызму, г. значыць, аб'ясьняла ўсю эволюцыю чалавечага грамадзянства, як рэзультат зьмен (поступу) чалавечага розуму, а то проста прызначэньнем „вышэйшай сілы“, прыпадковасьцю, здарэньнем або ўласьцівасьцю тэй ці іншай расы, нацыі і г. далей.

Але ўжо за доўга да таго, як Маркс формуляваў сваю тэорыю гістарычнага пазнаньня, мы пры агульным ідэялістычным кірунку гістарычнай мысьлі спатыкаемся з паасобнымі спробамі матэрыялістычнага падыходу да грамадзянскага жыцьця. Ужо ў эпоху нараджэньня гандлёвага капіталу мы знаходзім у працах некаторых гісторыкаў параскіданыя спробы вытлумачыць гістарычныя выпадкі прычынамі экономічнага характару, нават больш за гэта,—пробавалі разглядаць іх пад вуглом клясавай барацьбы.

Але яны не маглі яшчэ адкрыць тае асноўнае прычыны гістарычнага процэсу, тае „рухоўнае сілы рухоўных сіл“, якая была скора пасьля іх адкрыта Марксам-Энгэльсам.

Тварцы гістарычнага, або дыялектычнага, матэрыялізму свае сыстэмы не „выдумлялі“, яны яе не „вынайходзілі“, а зьлілі ў вадзіны, захопліваючы гэніяльнасьцю свайго выпаўненьня, сінтэз вышэйшыя дасягненьні папярэдняй філёзофскай і гістарычнай мысьлі. Разьвінутыя грамадзянскія адносіны таго часу далі магчымасьць К. Марксу на рубяжы першай і другой палавіны дзевятнаццатага веку выкажыць свае мысьлі ў справе гістарычнага процэсу ў формулу, якая стала цяпер клясычнай

Гэтае клясычнае месца, вартае падзіву, якое рэдка калі выходзіла з-пад пяра гэнія, кажа:

„У грамадзянскай продукцыі свайго жыцьця людзі ўступаюць у пэўныя, канечна патрэбныя, ад іх волі незалежныя адносіны,—продукцыйныя адносіны, якія адпавядаюць пэўнай ступені разьвіцьця іх матэрыяльных продукцыйных сіл.

„Злучнасьць гэтых продукцыйных адносін складаюць экономічную структуру грамадзянства, рэальны базіс, на якім высіцца юрыдычная і політычная надбудова, і якому адпавядаюць пэўныя формы грамадзянскай сьвядомасьці. Спосаб продукцыі матэрыяльнага жыцьця абумоўлівае соцыяльны, політычны і духоўны процэсы жыцьця наогул. Не сьвядомасьць людзей вызначае іх быцьцё, а, наадварот, іх грамадзянскае быцьцё вызначае іх сьвядомасьць.

„На пэўнай ступені свайго разьвіцьця, матэрыяльныя продукцыйныя сілы грамадзянства прыходзяць у супярэчнасьць з існуючымі продукцыйнымі адносінамі, або—што становіць толькі юрыдычны выраз гэтага—з адносінамі ўласнасьці, у сярэдзіне якіх яны дагэтуль разьвіваліся. З формаў разьвіцьця продукцыйных сіл гэтыя адносіны абарачаюцца ў іх кайданы. Тады наступае эпоха соцыяльнай рэволюцыі. У меру таго, як зьмяняецца экономічная аснова, больш ці менш борзда адбываецца пераварот ва ўсёй грамадзянскай надбудове. Пры разглядзе такіх пераваротаў трэба заўсёды адрозьніваць, з прыродна-навуковай дакладнасьцю констатуемы пераварот у экономічных умовах продукцыі ад юрыдычных політычных, рэлігійных, мастацкіх або філёзофскіх,—карацей, ад ідэялёгічных формаў, у якіх людзі ўсьведамляюць сабе гэты конфлікт і змагаюцца з ім.

„Як мала можна судзіць аб асобным чалавеку на аснове таго, што ён сам аб сабе думае, так мала можна судзіць а падобнай эпосе пераваротаў па тым, *як* яе ўсьведамляюць сабе. Наадварот, гэтую сьвядомасьць трэба аб'ясьніць супярэчнасьцямі матэрыяльнага жыцьця, яе трэба вывесьці з існуючага конфлікту паміж грамадзянскімі продукцыйнымі сіламі і грамадзянскімі адносінамі.

„Ніводная грамадзянская формацыя не раскідаецца раней, чымсі разаўюцца ўсе продукцыйныя сілы, для якіх яна даволі прасторная, і новыя, вышэйшыя продукцыйныя адносіны ніколі не ўстанаўляюцца раней, чымсі ў нетрах старога грамадзянства ня высьпеюць матэрыяльныя ўмовы іх існаваньня“. (К. Маркс. У справе крытыкі політычнай экономіі; з прадмовы, расійск. пераклад).

Асноўную філёзофскую проблему—адносіны мысьленьня да быцьця—марксізм разьвязуе ў тым сэнсе, што прызнае адзіна рачавісным (рэальным) сьветам—сьвет матэрыяльны, што пазнаецца нашымі пачуцьцямі, а ідэі лічыць адбіткам гэтага матэрыяльнага сьвету.

Гэтым самым гістарычны матэрыялізм устанаўляе свой погляд і на гісторыю. Грамадзянскі процэс для яго не рэзультат разьвіцьця ідэй, а продукт зьменнасьці матэрыяльных умоў нашага жыцьця.

## 5. Базіс і надбудова.

Матэрыялістычнае разуменьне гісторыі падбівае ўвесь грамадзянскі процэс прынцыпу экономічнай канечнасьці. Разьвіцьцё продукцыйных сіл становіць сабою тую першапрычыну, якая вызначае сыстэмы грамадзянскага ладу і стан ідэй грамадзкага чалавека ва ўсіх дзядзінах: політыцы, звычаёвасьці, праве, навуцы, мастацтве, філёзофіі, рэлігіі.



Матэрыяльныя ўмовы, ляжачыя ў васнове грамадзянскага ладу, проста або пабочна абумоўліваюць сабою разумовы (духоўны) твар членаў данага грамадзянства. Гэтае палажэньне Маркс вылажыў у сваю клясычную формулу *базіса і надбудовы*: „Злучнасьць (гэтых) продукцыйных адносін складаюць экономічную структуру грамадзянства, рэальны базіс, на якім высіцца юрыдычная і політычная надбудова, і якому адпавядаюць пэўныя формы грамадзянскай сьвядомасьці“...

„Як Дарвін адкрыў закон разьвіцьця органічнае прыроды“, сказаў Энгэльс над магілай свайго супрацоўніка, „так Маркс адкрыў закон разьвіцьця чалавечай гісторыі, палягаючы ў тым простым факце, які прыкрываўся да яго ідэялёгічнымі напластаваньнямі, што людзі мусяць перш за ўсё парупіцца аб ядзе, пітве, хаце й вопратцы, а потым ужо займацца політыкай, навукай, мастацтвам, рэлігіяй і г. далей, што, значыць, вытворчасьць беспасярэдніх матэрыяльных умоў існаваньня і за адно з гэтым экономічная ступень разьвіцьця таго ці іншага народу або таго ці іншага гістарычнага часу ў даны момант вытвараюць тую аснову, з якой разьвіліся дзяржаўныя ўстановы, праўныя паняцьці, мастацтва і, нават, рэлігійныя прадстаўленьні людзей адпаведнай эпохі, і з каторай і належыць выходзіць пры аб'ясьненьні ўсіх гэтых зьявішч“.

Гістарычны матэрыялізм шукае першапрычыны ўсіх зьмен у грамадзянскай організацыі і ў паняцьцях людзей ня ў зьменнасьці „чалавечай прыроды“, ня ў тых ці іншых абстрактных істотнасьцях; ён бачыць іх у разьвіцьці спосабаў продукцыі і памену, як рэзультаце разьвіцьця продукцыйных сіл.

Стан продукцыйных сіл у кожную даную эпоху становіць базіс, на якім узьнімаецца шматпаверхная грамадзянская будыніна. У беспасярэдняй залежнасьці ад пабудовы гэтага базісу знаходзяцца тыя адносіны, якія вытвараюцца паміж членам данага грамадзянства,—продукцыйныя адносіны. Гэтыя адносіны, у сваю чаргу, абумоўліваюць форму бытаваньня грамадзянства; яны зьяўляюцца тэй экономічнай асновай, на якой трымаецца соцыяльна-экономічная структура данай грамадзянскай організацыі. Гэтая структура дзейнічае на разумовы стан грамадзянства, робіць уплыў на выпрацоўку грамадзянскай псыхолёгіі, нораваў і звычаяў. Разумовы стан і звычаёвасьць, нарэсьце, вызначае сабою характар яго навукі, мастацтва, філёзофіі—яго ідэолёгію.

Пры пэўных умовах разьвіцьця працы і патрэбных для яе прылад, экономічная структура грамадзянства, г. значыць форма продукцыі прадметаў першай патрэбы, вызначае, на штучна вытваранай глебе, *у першую чаргу і беспасярэдне*, усю рэшту фактычнай чыннасьці грамадзянства і розныя віды гэтае чыннасьці ў тым процэсе, які мы называем *гісторыяй*, г. значыць утварэньне, супярэчнасьці, барацьбу і падзел на клясы; потым, адпаведныя адносіны, рэгулюючыя права й звычаёвасьць і, нарэсьце, прычыны й віды залежнасьці і падпарадкаваньня адных людзей другімі і адпаведныя формы панаваньня і ўлады,—словам, усё тое, што кладзе пачатак і складае дзяржаву. Далей, гэтая структура вызначае імкненьні і, у пераважнай часьці, *пабочным ускосным спосабам*, об'екты выбражэньня й мысьлі ў творчасьці мастацтва, рэлігіі і навукі (А. Лабрыоля).

Узаемная залежнасьць паміж рознымі паверхамі надбудовы была выражана Плеханавым у такой формуле:

1) Стан продукцыйных сіл;

2) Абумоўленыя ім экономічныя адносіны;

3) Соцыяльна-політычны лад, вырасшы на данай экономічнай аснове;

4) Псыхіка грамадзянскага чалавека, якая вызначаецца часткаю беспасярэдна экономікай, а часткаю усім вырасшым на ёй соцыяльна-політычным ладам;

5) Розныя ідэялёгіі, адбіваючыя ў сабе ўласьцівасьці гэтай псыхікі.

Як бачым, гістарычны матэрыялізм не аб'ясьняе ўсіх зьяўлень грамадзянскага жыцьця адным толькі беспасярэдным уплывам экономікі. У ліку тых прычын, якімі аб'ясьняюцца гэтыя зьяўленьні, кожная наступная катэгорыя абумоўлена папярэдняй, кожны з паверхаў ідэялёгічнай надбудовы сам служыць „базісам“ для вышэй ляжачага паверху. Хто папробаваў-бы зразумець характар мастацтва сучаснай, скажам, Гіталіі, выходзячы з беспасярэдняга ўплыву на яго гіталійскай экономіі нашых дзён, той-бы нічога не зразумеў. Мастацтва гэтае складаецца пад беспасярэднім націскам грамадзянскай псыхолёгіі кляс, маючых удзел у сучаснай Гіталіі; гэтая псыхолёгія вытвараецца пад уплывам прычын, якія абумоўліваюць клясавыя позыцыі і г. д. і г. д. Продукцыйныя сілы ўплываюць на цікавячае нас зьяўленьне ня толькі як *першапрычына*, паслужыўшая рухоўнікам, парушальнай сілай грамадзянскага жыцьця.

Не адкідаючы ўзаемадзеяньня паміж грамадзянскай экономіяй і чалавечай думкай, падлічаючы вялікае значэньне, якое гэтае ўзаемадзеяньне мае ў гістарычным ходзе, марксізм паказвае, што гэтае ўзаемадзеяньне, само па сабе ўзятае, нічога нам не аб'ясьняе. Адна з найвялікшых заслуг Гэгэля заключаецца ў тым, што ён першы зразумеў, што „адносіны ўзаемадзеяньня, замест таго, каб служыць раўназначнікам (эквівалентам) паняцьця, самі яшчэ павінны быць зразуметы, і гэта дасягаецца тым, што абедзьве ўзаемадзейнючыя прычыны прызнаюцца момантам чагосьці трэцяга, вышэйшага, а ня прымаюцца за беспасярэдна даныя“. Тое „трэцяе“, „вышэйшае“, якога шукаў Гэгэль, было знойдзена Марксам. Гэта—продукцыйныя сілы.

Возьмем прыклад. Як кажа Сісмондзі, ва Францыі пры Філіпе V-м рыцарскія раманы зьмянілі нацыянальныя звычаі, паказаўшы ўсяму шляхецтву, да чаго яно павінна імкнуцца, як да свае дасканаласьці. Літаратура мела ўплыў на звычаі, але адкуль узялася гэтая рыцарская літаратура? Якая прычына парадзіла існаваньне рыцарскіх раманаў? Яснае дзела: існаваньне рыцарскіх раманаў было выклікана існаваньнем рыцарскіх звычаяў... Вот цікавы прыклад узаемадзеяньня: літаратура фэўдальнага грамадзянства ўплывае на яго звычаі; яго звычаі ўплываюць на яго літаратуру. Але адкуль узялося само фэўдальнае грамадзянства,—гэтага зусім не выясьняе нам факт не падлягаючага сумненьню цікавага ўзаемадзеяньня.

Патрэбны адказ мы дастанем, калі дасьледзім продукцыйныя сілы падлягаючай нашаму разгляду эпохі.

Уласьцівасьці соцыяльных абставін аб'ясьняюцца станам продукцыйных сіл у кожны даны час. Калі дан стан продукцыйных сіл, то даны і ўласьцівасьці соцыяльных абставін, дана й адпаведная ёй псыхолёгія, дано і ўзаемадзеяньне паміж абставінамі, з аднаго боку, і розумам і звычаямі з другога (Бельтаў-Плеханаў).

„Разам з зьменаю экономічнай асновы“, кажа Маркс, „раскідаецца з большай ці меншай шпаркасьцю ўся вялізорная надбудова“. Але гэта



ня значыць, што марксістыя прадстаўляюць сабе, што *ад аднае* экономічнае структуры грамадзянства па простай лініі пераходзіць *да другой*, ад другой—да трэцяй і т. далей. Калі разьвіцьцё продукцыйных сіл абумоўлівае зьмену аднэй экономічнай структуры другой, то перш, чымсі гэтая зьмена можа зьдзейсьніцца, грамадзянству трэба падгатаваць яе *ідэялёгічна*. Але зьмена ў дзядзіне ідэялёгічнай наступае ня зразу, не аўтоматычна за зьменамі ў экономічнай базе. З разбурэньнем *асновы, надбудова* раскідаецца, як кажа Маркс, „з большай або меншай шпаркасьцю“. Руйнацыя „надбудовы“ нямінуча, калі разьвіцьцё продукцыйных сіл расхістае „базіс“, на якім яна трымаецца. Гэта—адна з цэнтральных тэорэм, якую дае нам гістарычны матэрыялізм. Але гэтая тэорэма нічуць не адмаўляе таго, што разбурэньне надбудовы можа адбыцца з *большай* ці *меншай* скорасьцю, што тэмп гэтага разбурэньня залежыць ад сілы, або ўлады традыцый (прызвычаенасьці), пануючымі над розумам членаў данага грамадзянства, ад дзейнасьці, або ад рэволюцыйнай энэргіі членаў тае клясы, якую разьвіцьцё продукцыйных сіл ставіць на першае месца, у ролю гегемона грамадзянства і т. д... Мы можам, напрыклад, прызнаць, што ў сучаснай Амэрыцы разьвіцьцё продукцыйных сіл дайшло да тэй ступені, калі капіталістычны лад павінен саступіць месца соцыялістычнаму. Але як скора адбудзецца там зьмена аднае экономічнае асновы другой, гэта будзе залежыць ад таго, як доўга будзе там трываць „перабудова надбудовы“—рэволюцыянізаваньне ідэялёгіі.

Ад чаго залежаць політычныя ўстановы данай краіны? Мы ўжо ведаем, што яны выражаюць сабою экономічныя адносіны. Але для таго, каб увайсьці ў жыцьцё, гэтыя падказаныя экономікай політычныя ўстановы павінны спачатку прайсьці праз галовы людзей, у форме пэўных *паняцьцяў*. І вось дзеля чаго чалавецтва ніколі ня можа перайсьці ад аднаго паваротнага пункту свайго экономічнага руху да другога, не перажыўшы спачатку цэлага перавароту ў сваіх *паняцьцях*.

Марксізм, ведаючы і даводзячы, што сьвядомасьць вызначаецца быцьцём, нізваньня не зьмяншае і ролі сьвядомасьці ў грамадзянскім жыцьці.

„Подлуг матэрыялістычнага разуменьня гісторыі“, пісаў Энгэльс у лісьце ад 21 верасьня 1890 г., „у вапошнім падлічэньні вызначаючым момантам у гісторыі зьяўляецца продукцыя і продуктаваньне матэрыяльнага жыцьця. Больш за гэта не казалі ні я, ні Маркс. Калі хто-небудзь скажае гэтую фразу ў тым сэнсе, што экономічны момант зьяўляецца нібы адзіным вызначаючым момантам, то ён абарачае гэта палажэньне ў нікчэмную, нічога не гаворачую, абстракцыйную, блізкую да абсурду, фразу. Экономіка—базіс, але на ход гістарычнай барацьбы маюць уплыў і ў шмат якіх выпадках вызначаюць форму яе, розныя моманты надбудовы: політычныя формы клясавай барацьбы і яе рэзультаты ў форме конституцый, устаноўленых перамогшай клясай пасьля перамогі і т. далей, праўныя нормы і нават адбіцьце ўсіх гэтых сапраўдных баёў у мазгу ўдзельнікаў—політычныя, юрыдычныя, філёзофскія тэорыі, рэлігійныя погляды і іх наступнае ператварэньне ў догматычную сыстэму“.

У чым істотнасьць ідэялёгіі? Энгэльс у „Людвіку Фэйербаху“ азначае яе, як працу над мысьлямі, як над незалежнымі, што самадзельна разьвіваюцца, падпарадкаванымі толькі сваім уласным законам, істотнасьцям. Характэрнаю рысай ідэялёгічнага процэсу зьяўляецца адсутнасьць у людзей яснага прадстаўленьня аб тэй сувязі, якая існуе паміж ходам іх

думак і матэрыяльнымі ўмовамі іх існаваньня, гэты ход вызначаючымі. „Юрысты думае, што мае справу з апрыорнымі палажэньнямі“, пісаў Энгэльс: „а гэта ўсяго толькі экономічныя адбіткі“. Зусім натуральна, што такая блутаніна ў сьвядомасьці, такі ідэялёгічны падман утварыўся толькі, дзякуючы пачленаваньню грамадзянства, выдзеліўшаму самадзеяльныя часьці. Людзі, каторых профэсія прымушае мець справу з адным толькі змысловым матэрыялам, зусім прыродна пачынаюць разглядаць гэты матэрыял, як аўтономную самаздавальняючую катэгорыю, і трацяць з відавоку ўсе тыя матэрыяльныя прычыны, якія абумаўляюць іх змысловы процэс.

Гістарычны матэрыялізм і зьяўляецца тэй навуковай тэорыяй, якая выяўляе сапраўдныя спружыны, кіруючыя нашым змысловым процэсам, якая беззшчадна разбурае ідэялёгічныя ілюзіі ды ўстанаўляе тую рэальную сувязь, якая існуе паміж ходам *ідэй* і ходам *рэчы*,—„надбудовай“ і „базісам“, сьвядомасьцяй і вызначаючым яе быцьцём.

## 6. Клясавая барацьба.

Пачаўшы „Комуністычны Маніфэст“ сваімі славутазнакамітымі словамі—*уся гісторыя грамадзянства была дагэтуль гісторыяй барацьбы кляс*— Маркс і Энгэльс не далі гэтым якой-небудзь новай гіпотэзы, а толькі паказалі на факт, які прызнаваўся ўжо к іх часу перадавымі гісторыкамі бясспрэчным і відавочным.

Заслуга Маркса-Энгэльса заключаецца ня ў тым, што яны паказалі чалавецтву факт бязупыннай клясавай барацьбы ў сярэдзіне грамадзянства, а ў тым, што яны надалі паняцьцю клясы новае, невядомае датуль навуковай мысьлі разуменьне.

Ужо гісторыкі эпохі элінскай культуры былі навочнымі сьведкамі клясавай барацьбы, і шмат хто сьвядома ставіўся да таго, што грамадзянства рашчэплена на ўзаемна-варожыя соцыяльныя групы. Але гэтае пачленаваньне грамадзянства прадстаўлялася іх разуменьню прыродным,—зьяўленьнем, якое пароджана самою прыродай, а не продуктам грамадзянскіх стасункаў. Клясычным выразам іх прадстаўленьня аб клясавых супярэчнасьцях у грамадзянстве можа служыць вядомая байка пра тое, як пасварыліся суставы (органы) чалавечага цела.

У чым-жа заключаецца тое новае, што было зроблена для навукі а клясавай барацьбе Марксам? На гэтае пытаньне часткаю дае адказ сам Маркс у вадным з сваіх лістоў. Ён піша:

„Што датычыць асабіста мяне, то ня мне належыць заслуга адкрыцьця існаваньня клясаў у сучасным грамадзянстве і іх барацьбы паміж сабою. Буржуазныя гісторыкі яшчэ за доўгі час да мяне далі нарыс гістарычнага разьвіцьця гэтай барацьбы кляс, а буржуазныя экономістыя далі экономічную анатомію гэтых кляс. Тое новае, што я дадаў сюды, заключаецца ў наступным. Я стараўся давесьці:

1) Што існаваньне кляс зьвязана толькі з пэўнымі, гістарычна прамінаючымі формамі продукцыі.

2) Што клясавая барацьба няўхільна вядзе к дыктатуры пролетарыяту.

3) Што гэтая дыктатура, у сваю чаргу, служыць толькі пераходнаю ступенькаю да зьнішчэньня ўсіх клас і да ўстанаўленьня такога грамадзянскага ладу, дзе ня будзе месца падзелу на клясы“.



„Уся гісторыя грамадзянства была дагэтуль гісторыяй барацьбы кляс“, кажа Комуністычны Маніфэст, але слова *ўся* трэба разумець адносна, стасункова, абмяжована, на што зварачае ўвагу і Энгэльс (бач. увагу да апошняга (1890 г.) нямецкага выданьня). Ён кажа: „Дакладней кажучы, тут разумеецца тая гісторыя, пра якую ёсьць пісьмоўныя ведамасьці“. Часы первястковага комунізму ня ведалі кляс; яны зьяўляюцца толькі ў часы распаду первястковай грамады. З таго часу, як чалавецтва, у сувязі з падзелам працы і кіраўніцтва працай, выйшла з стану первястковага комунізму, клясавае пачленаваньне (дыфэрэнцыяцыя) палажыла адбітак на ўсю грамадзянскую організацыю. У гэтым сэнсе ўся гісторыя грамадзянства зьяўляецца гісторыяй барацьбы кляс:

— „Вольны й нявольнік, патрыцы й плебей, пан і прыгонны, цэхавы майстар і чалядзінец (падручны), караццей—прыгнетчыкі й прыгнечаныя былі ў стане бязупыннай варажнечы паміж сабою, тачылі бесьперарыўную, то патайную то адкрытую, барацьбу, якая кожны раз канчалася рэволюцыйнай перабудовай усяго грамадзянскага ладу або супольнай гібельлю ваюючых кляс.

„У папярэднія эпохі гісторыі мы знаходзім бадай што ўсюды поўны падзел грамадзянства на розныя станы, на многавобразныя ступені рознага грамадзянскага палажэньня У старажытным Рыме мы сустрачаем патрыцых і рыцараў, плебеяў і нявольнікаў; у сярэднія вякі— фэўдалаў, васалаў, цэхавых майстраў, падручных і прыгонных, а ў кожнай з гэтых кляс былі яшчэ асобныя драбнейшыя пачленаваньні.

„Вырасшае на руінах фэўдалізму, сучаснае буржуазнае грамадзянства ня зьнішчыла падзелу на клясы. Яно толькі паставіла на мэсца старых новыя клясы, выпрацавала новыя спосабы прыгняценьня і новыя формы барацьбы“.

Кляса зьяўляецца катэгорыяй *гістарычнай*, уласьцівай пэўным ступеням соцыяльнага разьвіцьця, а дзеля таго—*прамінаючай*. Гэтым марксізм карэнным спосабам розьніцца ад усіх тых тэорый, якія мысьляць клясу, як катэгорыю *лёгічную*, уласьцівую *кожнаму* соцыяльнаму ладу. Марксізм разглядае клясу не як прыродны факт, а як продукт пэўных умоў. Дзеля гэтага марксізм лічыць, што калі зьнікнуць гэтыя ўмовы, калі згіне сучасная (капіталістычная) форма організацыі продуктаваньня і заменіцца новай, соцыялістычнай формай, то адамрэ й кляса. Грамадзянства, у якім пануе раўнавага інтарэсаў, ня ведае кляс. Такім грамадзянствам была первястковая грамада ў прошлым і будзе соцыялістычнае грамадзянства ў будучыне.

Грамадзянства, у якім інтарэсы знаходзяцца ў стане няроўнасьці й ваганьня, рашчэплена на клясы і разьвіваецца пад пераважным уплывам клясавай барацьбы, што адбываецца ў яго нетрах.

Асноўных кляс у капіталістычным грамадзянстве Маркс і Энгэльс налічалі тры: 1) *земляўласьнікі*, паны, крыніцаю прыбыткаў каторых зьяўляецца пазямельная рэнта; 2) *капіталістыя*, крыніцай прыбыткаў каторых зьяўляецца вызыск; 3) *пролетары*—уласьнікі голай рабочай сілы, крыніцай прыбытку каторых зьяўляецца заработная плата.

Тры пералічаныя клясы зьяўляюцца асноўнымі элемэнтамі, на якія падзяляецца капіталістычнае грамадзянства. Узятыя разам, з дадаткам паміжклясавых групіровак і дэклясованых элемэнтаў, яны ахопліваюць сабою ўсё капіталістычнае грамадзянства. Гэтыя асноўныя клясы ў сваю чаргу, дробяцца яшчэ на клясавыя адзінкі другога й трэцяга значэньня

падклясы. Напрыклад, кляса капіталістых распадаецца на падклясы прамысловай буржуазіі, гандлёвай буржуазіі, фінансавай буржуазіі. Прамысловая буржуазія таксама рашчапляецца на яшчэ больш дробныя групы і г. далей.

Каб уявіць сабе ўсю шматвобразнасьць клясавага пачленаваньня капіталістычнага грамадзянства, трэба мець на ўвазе не адны толькі асноўныя клясавыя тыпы, а таксама і ўсе клясавыя падтыпы.

Апроч таго, ня трэба забываць, з аднаго боку, элемэнтаў, выкінутых за межы ўсякай грамадзянскай клясы, дэклясованых (жабракі, напрыклад), а з другога боку, тых элемэнтаў, у якіх крыжуецца адначасна прыналежнасьць да некалькіх кляс (прамысловец, уладаючы зямлёй; селянін, маючы крамку). Усё гэта ня чыстыя, а мяшаныя клясавыя тыпы.

З распадам першастковага комунізму чалавецтва ўступіла ў новую паласу гісторыі, якая характарызуецца рашчапленьнем грамадзянства на клясы. Факт існаваньня кляс азначае сабою канечнасьць для кожнага з іх бараніць свае інтарэсы і, значыць, тачыць барацьбу з сваімі супраціўнікамі, антогоністымі. Барацьба гэта на працязе эпох бязупынна зьмяняе сваё аблічча: з патайной, скрытнай, яна становіцца яўнай, адкрытай, з часам зноў абарачаецца ў патайную; яна то носіць рэзкі, завостраны характар, то прытупляецца, становіцца хронічнай, але ніколі яна не прыпыняецца, ані на момант не абрываецца і ня можа прыпыніцца ў клясавым грамадзянстве. Клясавая барацьба то робіць вялікія перабудовы на гістарычнай арэне, разбурае старое і творыць новае, то хаваецца ў нетры грамадзянства і там, як крот, пракладае сабе сьцежкі.

Клясы, а значыць і клясавая барацьба, зьяўляюцца вынікам падзелу працы, абумоўленага пэўным станам продукцыйных сіл. Кожная зьмена ў гэтым стане выклікае за сабою і зьмену ў форме й характары клясавай барацьбы. Кожная кляса для абароны сваіх інтарэсаў у кожную эпоху стараецца выкарыстаць усе спосабы і ўсе тыя сродкі, якія знаходзяцца ў яе распараджэньні і якія яна лічыць дасягаючымі мэты для ўмацаваньня свайго ўласнага панаваньня або для зьвяржэньня панаваньня свайго супраціўніка. Прамова ў парлямэнце, газэтны артыкул, забастоўка, барыкада, філёзофскі трактат, публічная дэмонстрацыя, узброенае паўстаньне, грамадзянская вайна,—трудна пералічыць усе формы клясавай барацьбы, якая адбіваецца на ўсіх выяўленьнях грамадзянскага жыцьця—у праўных нормах, у звычаёвых паглядах, у творах розных галін мастацтва, у рэлігійных вераваньнях і т. далей.

Канечнаю мэтай кожнай клясавай барацьбы зьяўляецца захват у свае рукі політычнай улады, або, іначай кажучы, заўладаньне дзяржавай, гэтым апаратам „концэнтрованага і організованага грамадзянскага прымусу“. Гэтым самым клясавая барацьба заўсёды становіцца *політычнай* барацьбой. „Кожная клясавая барацьба ёсьць барацьба політычная“, кажа адзін з тэзісаў марксізму.

На кожнай гістарычнай ступені клясавая барацьба канчаецца пабедай тае клясы, прыход якое да ўлады вымагаецца станам продукцыйных сіл. „Усе рэволюцыі“, кажа Энгэльс, „палягаюць у тым, што панаваньне аднае пэўнае клясы зьмянялася панаваньнем другой... Адна пануючая меншасьць зьвяргалася, другая захапляла ў свае рукі ўладу ды перарабляла дзяржаўныя ўстановы згодна з сваімі інтарэсамі. Кожны раз ступень экономічнага разьвіцьця выклікала і рабіла здольнай да панаваньня тую ці



іншую групу меншасьці, і якраз гэтым і толькі гэтым тлумачыцца, чаму падпарадкаваная большасьць памагала перавароту ў інтарэсах меншасьці і, у кожным выпадку, спакойна паддавалася перавароту“.

Кожны клясавы лад вынікае тады, калі вырастаюць для гэтага адпаведныя матэрыяльныя ўмовы. Але калі процэс клясавай барацьбы адбываецца такім спосабам, што клясавая зьмена, патрэбная для разьвіцьця продукцыйных сіл, валтузіцца ды ў працязе доўгага часу ня можа зьдзейсьніцца, то грамадзянства раскідаецца. У гэтым сэнсе і трэба разумець вядомае цьвярджэньне „Комуністычнага Маніфэсту“, што клясавая барацьба заўсёды канчаецца або рэволюцыйнай перабудовай усяго грамадзянскага ладу або супольнай гібельлю ваюючых кляс.

Такім парадкам, клясавая барацьба, што бязупынна віруе ў нетрах грамадзянства, зьяўляецца магутным фактарам нязьменнага рэволюцыйнага абнаўленьня. Дзякуючы ёй, кожны састарэўшы клясавы лад мусіць зьмяніцца, мусіць саступіць месца другому, здольнаму разьвіваць продукцыйныя сілы грамадзянства. „На пэўнай ступені разьвіцьця“, кажа Маркс, „ён сам дастаўляе матэрыяльныя ўмовы для свайго зьвяржэньня. З гэтага моманту пачынаюць разьвівацца ў сярэдзіне грамадзянства сілы і імкненьні, якія пачуваюць сябе скутымі ім. Ён мусіць быць зьнішчаны, і ён зьнішчаецца“.

Закон клясавай барацьбы прымушае адну грамадзянскую структуру зьмяняцца другой; гэта бесьперастанная зьмена характарызуе сабою ўсю гісторыю клясавага грамадзянства і скончыцца толькі разам з яго сьмерцю. Наступленьне гэтага моманту абумоўлена апошняй клясавай зьменай, калі ўлада будзе першы раз узята большасьцю і ў інтарэсах большасьці.

З таго моманту, калі разьвіцьцё продукцыйных сіл у капіталістычным грамадзянстве дойдзе да свайго найвышэйшага пункту, клясавая барацьба з рухоўніка продукцыйных сіл абарачаецца ў іх путы. Зьмена буржуазіі пролетарыятам,—адзінай клясай, якая патрапіць плянамерна організаваць гаспадарку, паралізованую капіталізмам, азначае пераход ад клясавага да бясклясавага грамадзянства.